PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (2120) Год XLI Беласток 29 снежня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Зімовы краявід.* Фота Юрыя ТРАЧУКА

Ян Максімюк

## Председатель всея Руси

альбо

### Папаўся, жучку, у панскую ручку

*Па колькі ж нам дасі чырвонцаў.*
*Калі мы пойдзем за табой?*
Янка Купала, „Прарок", 1912

**Думка пра тое, што Аляксандру Лукашэнку замала ўлады ў Беларусі, і ён *метит* сама менш у прэзідэнты Расеі, пачала выказвацца ўголас ужо ў пачатку 1995 года. Пачаткова гэты „сюжэт" распрацоўваўся ў беларускім незалежным друку (газета „Свабода"), потым яго падхапілі і расейскія сродкі масавай інфармацыі: дэмакратычнай арыентацыі — іранічна і нават здзекліва, шавіністычнай — *серьёзно и даже с восторгом.* З цягам часу, як Аляксандр Рыгоравіч *прибирал к рукам* усё новыя сферы грамадска-палітычнага жыцця Беларусі, тон беларускіх каментатараў ставаўся ўсё больш змрочным і безнадзейным. З'явілася нават нота пэўнай цынічнай задаволенасці, што і маскалям таксама дастанецца: хай толькі Рыгоравіч зойме месца на Крамлі, а тады і іх *обустроит*, як беларусаў.**

У лютым 1995 г. Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з адным расейскім генералам, палітыканам крайне шавіністычнага крыла, заявіў: *Беларусь для меня — пройденный этап!* А было гэта, нагадаю, усяго толькі пасля таго, як Лукашэнка стварыў сваю *вертикаль* — падпарадкаваў сабе выканаўчую ўладу на мясцовым (абласным і раённым) узроўні. Наперадзе былі разгон галадоўкі дэпутатаў БНФ і падкуп цэлага Вярхоўнага Савета 12-га склікання, рэферэндум за інтэграцыю з Расеяй у маі 1995 г., інтэграцыйная ліхаманка летам 1995 г., спроба зрыву парламенцкіх выбараў 1995 г., саюз „чатырох" і „двох" — утварэнне гэтак званага *Сообщества Суверенных Республик* (ці, можа, *Сообщества России и Беларуси*?), канфлікт з Вярхоўным Саветам 13-га склікання, рэферэндум 24 лістапада 1996 г., ліквідацыя законнага парламента і стварэнне „кішэннай" Палаты Прадстаўнікоў. Як на аднаго чалавека, гэта была каласальная нагрузка. Аляксандр Рыгоравіч справіўся з ёю бліскуча.

Гэтая неверагодная палітычная кар'ера адбывалася і далей адбываецца пры сапраўднай народнай падтрымцы. Безумоўна, можна спрачацца, ці ў апошнім рэферэндуме Лукашэнка набраў хоць 50% галасоў у падтрымку дыктатуры (у маім перакананні — *никак нет*), але факт застаецца фактам — народ настолькі паралізаваны ходам падзей, што не пікнуў і не пікне. Аніякай радасці таксама не відаць, але трэба мець на ўвазе, што чарговую перамогу над здаровым розумам дасягнулі перш за ўсё людзі пажылога веку, якім гуляць з чырвона-зялёнымі сцягамі ўжо не ў змогу. Калі завязуць аўтобусамі, дык яшчэ можна крыху парыпацца, а так... Але ўсё роў-

**(працяг на стар. 4)**

# Мы прачыталі

*Niewątpliwie po raz pierwszy pojawiła się wyraźna przeciwwaga wyborcza dla Sojuszu Lewicy Demokratycznej w postaci Akcji Wyborczej „Solidarność", będąca dość wiernym odwzorowaniem struktury SLD. Nawet liczbowo struktury te są podobne — każda zbiera około czterdziestki różnych kanap i pojedynczych foteli. Podział ideowy i światopoglądowy owych kanap jest wyraźny — w SLD grupuje się to co od centrum na lewo, aż po egzotycznych dziś komunistów, a w AW„S" to, co od centrum na prawo, od umiarkowanych konserwatystów po katolickich fundamentalistów. Marzenia niektórych polityków o stworzeniu Sojuszu Prawicy Demokratycznej zrealizowały się w dość dziwacznej formie — związek zawodowy przygarnął pod swe skrzydła tych, którzy w kolejnych wyborach przegrywali wszystko. Ile to ma wspólnego z prawicą, zwłaszcza w sferze programów gospodarczych — nie bardzo jeszcze wiadomo. Wydaje się raczej niewiele. W Polsce programy gospodarcze partii są dość pojemne. Niejeden liberał przekonuje, że ma serce z lewej strony, a niejeden socjalista za najlepsze miejsce wyrażania swych poglądów uznaje klęcznik.*

*Polityka, nr 49*

* * *

*Народ Беларусі выказаў на рэферэндуме сваю волю. Цяпер Беларусь — еўрапейская краіна,* — сказаў прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

*Голас Радзімы, н-р 49*

* * *

*Łukaszenko jest przypadkiem skrajnym. Na ten przypadek składa się osobliwa mieszanina retoryki komunistycznej z faszystowską, kompletny brak tradycji politycznej, pogarda dla prawa, kultura polityczna szefa kołchozu, narcyzm i egotyzm. Ten syndrom może stanowić studium z zakresu psychopatologii politycznej. Relacje Łukaszenki z Moskwą bynajmniej nie są jednoznaczne. Łukaszenko jest lokajem-wolontariuszem, który z zapałem począł nauczać swego pana wielkorosyjskich manier. W tych dziwacznych stosunkach już nie pies macha ogonem, lecz ogon próbuje machać psem. Łukaszenko wnosi w rosyjską debatę ton bliski retoryce Ziuganowa i Żyrinowskiego. Łukaszenko nie jest nawet moskiewską marionetką; jest sowiecką kukłą, która deprawuje rosyjską debatę demokratyczną i szuka wspólnego języka z rosyjską „czarną sotnią". Jeśli Białoruś zostanie przyłączona do Rosji, to wcale nie będę zdziwiony, gdy ten kołchozowy Bonaparte spróbuje sięgnąć po władzę na Kremlu. W końcu — w czym jest on gorszy od gruzińskiego seminarzysty,* — пытае Адам Міхнік.

*Gazeta Wyborcza, nr 279*

* * *

*Polska staje się rajem dla międzynarodowych grup pedofilów. W Europie Zachodniej za „numer" z sześciolatkiem trzeba zapłacić 4 tys. USD; za dodatkowe 2 tys. USD można tam kupić „prawo" do popełnienia morderstwa z lubieżności. Od lat polskie dzieci z domów dziecka trafiają nielegalnie do Holandii, Szwecji. Formalnie chodzi o adopcję, faktycznie — według policji — są ofiarami pedofilów. Europejscy pedofile tworzą zamknięte i bardzo dobrze zorganizowane struktury, swoistą „międzynarodówkę". Między jej uczestnikami krążą filmy, zdjęcia z nagimi dziećmi, adresy potencjalnych ofiar mieszkających w wielu zakątkach świata. W Jeleniej Górze policja znalazła u zatrzymanego Niemca notes z adresami dzieci, których rodzice gotowi byli negocjować finansowe warunki udostępniania swoich pociech pedofilom.*

*Wprost, nr 49*

Ці ёсць яшчэ штосьці больш агіднае за чалавека?

* * *

*Raz w miesiącu zamiera praca na budowach w całym kraju, ponieważ ekipy budowlane osobiście muszą odebrać swój zasiłek dla bezrobotnych. Maleje w ten sposób tempo prac na budowach.*

*Gazeta—Magazyn, nr 48*

* * *

*Kościuszko, który był kiepskim wodzem, a w dodatku pedofilem, a mimo to jest dla Polaków przykładem patrioty,* — сказаў Яраслаў Качынскі.

*Polityka, nr 49*

* * *

*Polacy od kilku lat żyją w nieustannym stresie. Najczęściej doświadczanymi uczuciami są wściekłość, rozdrażnienie i zdenerwowanie. Złość motywuje do działania, irytacja zachęca do działań ekstremalnych. Poniżanie drugiego człowieka daje poczucie lepszości. To syndrom właściwy więzieniom, miejscom, gdzie wszyscy czują się nieszczęśliwi i pognębieni, ale silniejsi usiłują zdobyć iluzję władzy. Zazwyczaj uległość ofiary zachęca agresora do kontynuowania werbalnych tortur.*

*Wprost, nr 50*

Наша „бочка з пацукамі", аднак, вылучаецца большай арыгінальнасцю.

* * *

*Prezesem Suwalskiej Specjalnej Strefy Ekonomicznej jest profesor Jerzy Małysz. Jego żona, wiceminister Katarzyna Małysz, opiniowała projekt utworzenia Strefy. Jej siostra, Małgorzata Piasecka, kieruje biurem marketingu Strefy. Pierwszym wiceprezesem Spółki jest Andrzej Soroka. Jego brat, wiceminister przemysłu, nadzoruje funkcjonowanie specjalnych stref. W spółce, która nie ma ani grosza prezes i jego zastępcy mają zarabiać po 120 mln. zł, dyrektor spółki 90 mln. zł.*

*Kurier Poranny, nr 290*

# З мінулага тыдня

**Правадыры краін Еўрапейскага Саюза** на сустрэчы ў вярхах у Дубліне прызвалі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Аляксандра Лукашэнку** прытрымоўвацца агульнапрынятых у свеце дэмакратычных і канстытуцыйных прынцыпаў. Лідэры пятнаццаці заходнееўрапейскіх дзяржаў перасцераглі, што адсутнасць прагрэсу ў гэтай сферы можа адмоўна паўплываць на адносіны паміж Менскам і Брусэлем і стаць перашкодай у прыняцці Беларусі ў Савет Еўропы. Еўрапейскі Саюз выказаў сур'ёзную занепакоенасць ходам падзей у Беларусі і звярнуўся з просьбай прыняць у Менску спецыяльную місію ЕС і стварыць ёй магчымасць вывучыць сітуацыю на месцы.

**Міжнародны эканамічны семінар** арганізавала ў Беластоку Вышэйшая школа фінансаў і ўпраўлення. Удзельнічала ў ім больш за сто навукоўцаў і гаспадарчых дзеячаў з Польшчы, Літвы, Беларусі і Расеі. Праф. **Васіль Сянько** з Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта гаварыў аб гаспадарчых праблемах Беларусі, у якой з 1994 г. гадавы спад прадукцыі дасягае 10-12%. Адзіны спосаб выхаду з такой сітуацыі — рэструктурызацыя айчыннай прамысловасці і павелічэнне яе якаснасці і канкурэнтаздольнасці. Дзеля гэтага патрэбна дапамога Савета Еўропы і ААН, паколькі Беларусь не ў змозе зрабіць гэта самастойна.

**У Любліне** адбыўся польска-беларускі семінар, на якім разглядаліся праблемы захавання забалочаных тэрыторыяў і іх уздзеянне на мікраклімат і біяразнастайнасць прыроды двух краін. Супрацоўнікі Інстытута праблемаў выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Акадэміі навук Беларусі разам з навукоўцамі Польскай акадэміі навук абмеркавалі шляхі павышэння эфектыўнасці выкарыстання меліяраваных земляў у сельскай гаспадарцы ў спалучэнні з беражлівымі адносінамі да прыроды. Такая пільная ўвага навукоўцаў да захавання азёрна-балотных комплексаў выклікана ў першую чаргу іх важным значэннем для біясферы. Напрыклад, адзін гектар багны выводзіць з атмасферы тысячу кілаграмаў вуглекіслага газу, што ў 7-15 разоў больш, чым гектар лесу ці лугу. Гэты і іншыя фактары павінны ўлічвацца пры правядзенні сельскагаспадарчых работ.

**Цэнтр маніторынгу свабоды прэсы** звярнуўся да самаўрадавых улад з заклікам спыніць практыку засакрэчвання сваіх пасяджэнняў. Апошнім часам журналістам не было дазволена прыслухоўвацца сесіям гарадскіх рад у Аструдзе і Пярэмылі, аб чым інфармавалі цэнтральныя газеты. Засакрэчванне пасяджэнняў самаўрадавых органаў супярэчыць закону, — прыгадвае Цэнтр.

**Пагадненне Буг** — так называецца дакумент, які падпісалі ваяводы Бяльскападляшскага, Беластоцкага, Ломжынскага, Астралэнцкага і Сядлецкага ваяводстваў. І хаця толькі 25% Беласточчыны знаходзіцца ў даліне Буга, то дзякуючы гэтаму пагадненню ў Драгічыне, Мельніку, Нурцы, Боцьках, Градзіску і Чаромсе будуць пабудаваны ачышчальні сцёкаў, а ў Сямятычах — у „Гортэксе", шпіталі і школе — экалагічныя кацельні.

**Конкурс разьбы па дрэве** арганізаваў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры. Удзельнічала ў ім 17 аўтараў, якія прадставілі 132 работы. У катэгорыі традыцыйных народных вырабаў першае месца занялі **Мар'ян Анісімовіч** з Крушынян і **Ян Андрушкевіч** з Беластока. На другім месцы апынуўся **Уладзімір Наумюк** з Канюкоў. У катэгорыі рамяства перамог **Ян Врублеўскі** з Гайнаўкі.

# Весткі з Беларусі

**Асадзі назад!**

Старшыня распушчанага пасля лістападаўскага рэферэндуму Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі выказаў шкадаванне, што не дайшло да ягонай сустрэчы з Юзэфам Зыхам і папрасіў прабачэння ў маршалка Сейма за тое, што не змог з'явіцца ў Варшаву, паколькі беларускія пагранічнікі не прапусцілі яго праз граніцу. Паводле інфармацыі старшыні ВС, да інцыдэнту дайшло 13 снежня на пераходзе ў Брузгах каля Гродна. Сямён Шарэцкі меў два пашпарты — дыпламатычны і службовы. Беларускія пагранічнікі абодва дакументы прызналі несапраўднымі. Як пазней выявілася, пагранічнікі карысталіся спісам 110 паслухмяных прэзідэнту дэпутатаў, якія цяпер складаюць Палату Прадстаўнікоў.

**Зноў вінаваты журналісты**

Міністэрства замежных спраў заявіла, „што пэўныя замежныя сродкі масавай інфармацыі мэтанакіравана працягваюць распаўсюджваць фальшывую інфармацыю пра грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі". У адмысловым камюніке знешнепалітычнае ведамства абвінаваціла журналістаў у тым, што пераўлічваюць яны колькасць удзельнікаў антыпрэзідэнцкіх дэманстрацый і ў няпраўдзівым святле паказваюць дзеянні міліцыі. Віцэ-міністр Міхаіл Хвастоў прыгразіў, што міністэрства „прыме адпаведныя меры", калі замежныя журналісты будуць свядома ўводзіць у зман грамадскую думку.

**Парадкаванне кадраў**

Генеральны пракурор Васіль Капітан пасля сустрэчы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам падаўся ў адстаўку. Як прычыну свайго рашэння падаў ён „стан здароўя" і заявіў, што здаўна намерваўся пакінуць гэты пост. Прэзідэнт прыняў адстаўку і новым генеральным пракурорам назначыў аднаго са сваіх паплечнікаў Алега Бажэлку — дагэтуль пракурора Магілёўскай вобласці.

**Вымушаная бяздзейнасць**

Менскі аўтамабільны завод у пачатку снежня спыніў вытворчасць аўтамабіляў з-за адсутнасці паставак рухавікоў, выкліканай забастоўкай на Яраслаўскім маторным заводзе ў суседняй Расеі. Зараз нельга нават прыблізна назваць тэрміны пачатку работы МАЗа. Выхад са складанага становішча можа даць рашэнне пытання аб узнаўленні работы Яраслаўскага маторнага завода на міжурадавым узроўні.

**Новы падручнік**

Другое, дапрацаванае выданне „Гісторыі беларускай літаратуры", падрыхтаванае выдавецтвам „Вышэйшая школа", выйшла з друку і зацверджана Міністэрствам адукацыі і навукі ў якасці падручніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей ВНУ. У новым выданні ўдакладнена некаторыя палажэнні і ацэнкі, выпраўлены памылкі, пашыраны асобныя фрагменты і зроблены новыя высновы ў раздзелах, адэкватна сённяшняму разуменню ролі і месца шэрагу дзеячаў беларускай літаратуры.

**Брытанская падтрымка**

Роўна год дзейнічае ў рэспубліцы праект міжнароднай фінансавай арганізацыі „Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі". Фінансуемы брытанскім фондам ноу-хау праект ставіць на мэце аказанне бязвыплатнай дапамогі ў падтрымцы росту і развіцця прадпрымальніцтва. У Брэсце ў рамках праекта быў адкрыты бізнес-цэнтр. З дапамогай яго кансультантаў на працягу года распрацавана 14 інвестыцыйных праектаў, агульная сума фінансавання якіх склала 3,5 млн. дол. ЗША.

**З Брэста ў Варшаву**

На адрас Інстытута шкла і керамікі ў Варшаве брэсцкія газаапаратчыкі адправілі унікальную мікрахвалевую печ. Выкананне гэтага заказу стала магчымым, дзякуючы цеснаму супрацоўніцтву брэстаўчан з канструктарамі з Екацярынбурга. На думку спецыялістаў, цяпер тэхнічны ўзровень лініі па выпуску мікрахвалевых печаў нічым не ўступае заходняму і тут, акрамя бытавых прыбораў, можна наладзіць вытворчасць печаў прамысловага прызначэння. Усё гэта ў будучым дазволіць акцыянернаму таварыству „Брэстгазаапарат" больш актыўна выходзіць са сваёй прадукцыяй на сусветны рынак.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- ☞ **Беларускі каляндар на 1997 год!**
- ☞ Размова Міколы Ваўранюка з Васілём Ляшчынскім і Андрэем Сцепанюком.
- ☞ Якіх жонак шукаюць хлопцы праз пасрэдніцтва матрыманіяльных бюро.

# Незвычайная ўрачыстасць

У чаромхаўскім Прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу на 22 лістапада г.г. было назначана прафесіянальнае вучэнне з інспекцыяй пад наглядам інструктара машыністаў Янкі Кубіцкага.

З увагі на неардынарны і ўрачысты характар мерапрыемства былі разасланы запрашэнні: начальніку ўпраўлення вагонаў у Варшаве, кантралёрам і інструктарам гэтай жа службы, войту Чаромхаўскай гміны, мясцоваму каменданту Гранічнай аховы, былым начальнікам даўнейшага паравознага і вагоннага дэпо, прадстаўнікам прафсаюзных арганізацый, актыўным дзеячам чыгуначнага пасёлка.

У вучэбнай зале сабралася некалькі дзесяткаў запрошаных гасцей. У 13 гадзін пачалася ўрачыстасць.

— Сёння сабраліся мы ў гэтай зале, — пачаў начальнік прадпрыемства Анатоль Анішчук, — каб правесці апошняе вучэнне пад наглядам інструктара машыністаў Янкі Кубіцкага. Гэта незвычайны дзень, бо наш дарагі і сардэчны прыяцель праводзіць з намі апошні дзень сваёй прафесіянальнай працы. Пасля саракагадовага стажу на ПКП адыходзіць ён на пенсію. З увагі на тое, што юбіляр быў адданы грамадскай справе, таму сённяшняе мерапрыемства праводзіцца ў пашыраным коле.

Затым начальнік Анішчук пазнаёміў прысутных з прафесіянальнай кар'ерай Янкі Кубіцкага і ўручыў яму ганаровую грамату, а кіраўнік кадраў Ірэна Санкевіч — вазон з кветкамі.

Паступілі віншаванні і пажаданні: ад кіраўніцтва Цэнтральнай дырэкцыі, ад калег па рабоце, ад мясцовага самаўрада і прафсаюзных арганізацый. Былі і падарункі. Уручаючы юбіляру цудоўную карціну з краявідам, войт гміны Міхась Врублеўскі так сказаў:

— Працаўнікі нашай гміны жадаюць табе, дружа, многа здароўя, каб ты свае пенсіянерскія гады праводзіў у такім краявідзе, як на гэтым малюнку...

— Не знаходжу слоў прызнання, — пачаў усхваляваны Янка. — Кожнага з вас лічу сваім прыяцелем. З кожным з вас пражыў я часцінку свайго жыцця, таму прашу вас, каб пасля нашага супольнага апошняга ўрока, які зараз з вамі правяду, успомнілі мінулае. А маем аб чым успамінаць...

Янка Кубіцкі, інструктар машыністаў Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу, актыўны грамадскі дзеяч Чаромхаўскай гміны, пачаў свае апошнія заняткі па „інспекцыі", якая зводзілася да рэкамендацыі кожнага запрошанага госця сабранай у зале аўдыторыі.

У час „рэкамендацыі" была выкарыстана наватарская тэхніка інструктара Кубіцкага (аб ёй пісаў я ў „Ніве" ад 21 красавіка г.г. у публікацыі „Быць чалавекам"). Дзякуючы ўстаноўленым у зале відэакамерам і завешаным пад столлю маніторам, усе прысутныя маглі сябе аглядаць на экране маніторах, быццам яны выступалі па тэлебачанні.

Больш паўгадзіны часу заняла інструктару „інспекцыя". А калі яе завяршыў, сказаў так:

— А зараз пяройдзем у другі бок залы, каб „прадоўжыць" нашу сустрэчу. Там і ўспомнім мінулае. У тым часе раскрыўся занавес і перад вачыма прысутных паказаўся багата застаўлены стол. За бяседай паплылі ўспаміны, тосты, пажаданні і традыцыйнае „Sto lat" юбіляру.

Стварылася сардэчная, сапраўды сяброўская атмасфера, якой так не хапае ў нашым жыцці, у час працы на прадпрыемстве. Не было тут начальнікаў і падначаленых. Усе з'яўляліся членамі адной дружнай сям'і, сям'і верных сяброў, якую з'яднаў сабе наш паважаны калега, інструктар машыністаў, душа рабочага калектыву Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу, актыўны дзеяч чыгуначнай Чаромхі Янка Кубіцкі. Пажадайма юбіляру моцнага здароўя і самых лепшых поспехаў у яго самаахвярнай грамадскай дзейнасці на карысць чыгуначнага асяроддзя.

**Уладзімір Сідарук**

# Абы спакой быў

Уладзімір Міранові з вёскі Сяські, што ў Заблудаўскай гміне, слухаючы нараканні людзей на цяжкасці штодзённага жыцця, часта паўтарае: „Хлопцы, абы толькі спакой быў". Падумайце, — кажа, — ці калі-небудзь лепей нам жылося, або можа нашым бацькам, дзядам. Кожны з нас мае пенсію, хатку, крама прыязджае ў вёску два разы на тыдзень, маем за што купіць хлеб, масла, цукар і свечку ў царкве паставіць. А як было раней? Такія як мы жылі на ласцы сына і нявесткі. Былі як непатрэбная мебля. А сёння кожны гаспадар, у якога жывуць бацькі-пенсіянеры, стараецца, каб нічога ім не бракавала. Мы сёння жывём як паны, можам нават унукам час ад часу падараваць пару грошаў і яны глядзяць на нас як на людзей, якія яшчэ штосьці вартыя. Невядома толькі, чаму мы працуем так як і раней, проста, самі шукаем сабе работы. Гэта напэўна па прывычцы. Падумайце, хлопцы, як жылося нашым бацькам, хаця б тады, калі яны вярнуліся з бежанства. Мая маці дзесяць кіламетраў кожным ранкам ішла ў Дабрынёўку капаць бульбу. Плацілі за дзень працы быў кошык бульбы, які вечаркам несла яна на плячах дадому. Але што я гавару „дому". Гэта ж была зямлянка з адным малым акенцам. Без каня, каровы, плуга, грошай, на зямлі, якая шэсць гадоў ляжала аблогам, людзі нанава пабудавалі нашы вёскі. Шкада толькі, што яны цяпер зусім апусцелі. Мы тут наракаем цяпер, што цяжка нам жывецца, але ці было калі-небудзь лепей? — яшчэ раз спытаў дзядзька Валодзя.

Пачалі сяляне ўспамінаць пра галечу часоў санацыі, дурнату „за саветаў", безупынны страх „за немца" і кашмар пасляваеннага перыяду, калі ніхто не ведаў, ці перажыве чарговую ноч. І традыцыйна ўся гутарка закончылася высновай, што „за камуны найлепей жылося", а асабліва „за Герка". Тады менавіта „далі рэнты" і ніхто з сялян не думаў дзе і каму прадаць збожжа, бульбу, яйкі, яблыкі, мяса. Дзяржава ўсё брала, толькі давай як найбольш. А цяпер думай, што пасеяць ці пасадзіць, каб магчы восенню прадаць. У мінулым годзе за бульбу можна было атрымаць немалыя грошы і людзі вясною давай яе садзіць у два разы больш, чым раней. Атрымалася так, што ў гэтым годзе і дарма няма каму браць бульбу. Пры камуне такога не бывала, — дайшлі да вываду пенсіянеры.

**Слухаў і запісаў: (ям)**

# Пакуль не позна

Аб „гулянках" дарожных піратаў на кузаўскай вуліцы, неаднойчы пісаў я ў „Ніве". За кожным разам перасцерагаў аб небяспецы, якая пагражае з боку п'яных шафёраў. Мае прадчуванні аказаліся трапнымі. Толькі ў гэтым годзе, летняй парою, у Кузаве здарыліся два выпадкі. „Героі" ў п'яным стане апынуліся на платах. Пацярпеўшымі аказаліся сялянскія платы і аўтамабілі свавольнікаў. На шчасце, ахвяр у людзях не было. Чаромхаўская паліцыя не цікавілася справай, бо і кузаўцы маўчалі быццам вады ў рот набраўшы.

У канцы лістапада здарыўся чарговы дарожны выпадак. Трэці ў гэтым годзе.

Еду я вуліцаю па Кузаве, і вачам не веру. Каля сядзібы Янкі Б. на дратах вісіць бетонны слуп тэлефоннай лініі. Сляды на месцы здарэння паказвалі, што піратам быў трактарыст. Злачынца так спяшаўся ўцякаючы, што ад страху шапку згубіў.

Гайнаўская тэлекамунікацыя вымушана будзе выкінуць падбіты слуп і заступіць яго новым. Цікава толькі, ці і гэтым разам усё „пацыху" абыдзецца.

На маю думку, кузаўцам трэба прабудзіцца з соннай дрыматы і пачаць голасна гаварыць аб свавольствах шафёраў у п'яным стане. Бо ў наступным выпадку, можа загінуць чалавек. А тады ўжо позна будзе на роздумы.

**(ус)**



*Локніца ў Кожыне.*

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Што ў беластоцкім эфіры?

**З такім пытаннем звярнуўся я да дырэктара Дзяржаўнай радыёінспекцыі ў Беластоку Багдана МАЯ. Вось што ён мне адказаў.**

Калі ідзе пра тэлебачанне, дык цяпер на ўсёй тэрыторыі ваяводства магчымы прыём першай праграмы Польскага тэлебачання. Другую праграму могуць аглядаць жыхары ваколіц Бельска-Падляшскага і Сямятыч з перадатчыка ў Ласіцах паблізу Седльцаў, а таксама жыхары наваколля Дубровы-Беластоцкай з перадатчыка ў Сувалках. Беластоцкі перадатчык TVP2 слабы і хапае яго моцы толькі жыхарам Беластока і найбліжэйшага наваколля. Сітуацыя неўзабаве зменіцца, бо ў студзені 1997 года мае быць здадзены ў эксплуатацыю магутны перадатчык другой праграмы польскага тэлебачання ў Крыніцах. Таксама ў першай палове 1997 г. мае там увайсці ў строй і перадатчык лакальнай беластоцкай тэлестанцыі і пачатак яго працы абумоўлены будзе толькі праграмнай падрыхтаванасцю беластоцкага асяродка. Абодва новыя перадатчыкі сваім абсягам ахопяць цэлае наша ваяводства.

З непублічных тэлекампаній працуе ў Беластоку толькі Polsat, якога прыём магчымы толькі ў Беластоку і найбліжэйшым наваколлі. Гэтая кампанія мае намер паставіць свой мацнейшы перадатчык у раёне між Гайнаўкай і Бельскам. Прадбачвалася там эмісія другой праграмы, але паколькі хопіць ёй станцыі ў Крыніцах, яна адказваецца ад тамашняй лакалізацыі, адступаючы яе Польсату. Галоўнай праблемай для Польсата астаецца цяпер не купля грунту ці будова мачты, але звальненне прызначанай частотнай паласы войскам, прычым не толькі польскім, але і беларускім, бо і Савецкая Армія таксама карысталася гэтым дыяпазонам. Апрача Польсата права на перадачу ў Беластоку атрымалі кампаніі Canal+ і NTV (Nasza Telewizja). Яны намераны паставіць у Беластоку перадатчыкі малой моцы — такія, які цяпер мае Польсат.

На маё пытанне наконт тэлестанцый у Беларусі Багдан Май адказаў, што гэтым ягоная ўстанова не займаецца. Венскім пагадненнем паасобным краінам прызначаны тэлеканалы так, каб адны другім не перашкаджалі. Яшчэ ў 80-я гады праводзіліся ў нас меранні моцы суседскіх тэлесігналаў, але цяпер адышлі мы ад гэтай практыкі.

Калі гаварыць пра радыёперадачы, дык на доўгіх хвалях сітуацыя пакуль не вырашана, і калі не будзе пастаўлена мачта для першай радыёпраграмы, магчыма, што і зусім не будзе перадач у гэтым дыяпазоне. У паласе сярэдніх частот перадачы маюць *штучны* характар і, як я зразумеў, без будучыні. Галоўнай прасторай радыёперадач з'яўляецца цяпер ультракароткахвалевы дыяпазон, прычым да 2001 года „ніжнія" частоты (65—73 Мгц) маюць быць пакінуты і з усім трэба перайсці ў „верхнія" (88—108 Мгц). Цяпер агульнапольскія II, III і IV праграмы перадаюць у ніжніх частотах, аднак пасля Новага года яны будуць высылацца з новых, мацнейшых перадатчыкаў ужо ў верхнім дыяпазоне; цяперашнія памехі ці паслабленні сігналаў з'яўляюцца акурат вынікам праводзімых у Крыніцах мантажных прац. Вось ужо і Беластоцкае радыё перадае, побач „старога", і ў новым дыяпазоне. Апрача публічнага радыёвяшчання ў Беластоку перадаюць камерцыйныя станцыі Akadera, Radio Zet і RMF/FM а таксама каталіцкае Radio Maryja.

* * *

У сувязі са згаданым выхадам радыёперадач з „ніжніх" частот, у 2001 годзе стануць непрыдатнымі цяперашнія нашы радыёпрыёмнікі, у якіх няма дыяпазона 88—108 Мгц. Каб слухаць тады перадачы Польскага радыё трэба будзе папросту купляць новы прыёмнік, і то такі, у якім ёсць гэты дыяпазон. У гандлі ўжо большасць такіх, але сустракаюцца яшчэ і такія, у якіх яго няма. Купляючы новы, трэба глядзець, каб праз тры гады не прыйшлося купляць яшчэ навейшы.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Председатель всея Руси

## альбо Папаўся, жучку, у панскую ручку

*(працяг са стар. 1)*

на — перад рэферэндумам, калі Лукашэнка раз'язджаў па Беларусі і намаўляў падтрымаць ягоную канстытуцыю, ягоны электарат плакаў ад шчасця (гэта не рытарычная фігура, а клінічны факт). Такое ўжо было, прыкладам, у 30-тыя гады, калі нават стоячы над ямай, людзі маліліся на правадыра і, падаючы з дзіркай у патыліцы, былі ўпэўненыя, што *здесь наверно произошла ошибка. Ошибка — конечно,* але зрабіў яе напэўна не правадыр. Феномен захаплення правадыром не растлумачыць, як часам чыняць у роспачы некаторыя беларускія каментатары, толькі генетычным недаразвіццём калгаснага люду ці ягонай звышразумовай любоўю да камунізму і Савецкага Саюза. Ёсць нешта да канца нераспазнанае ў механізме паводзін масаў і натоўпаў, якія служаць апорай кожнай аўтакратычнай уладзе. Аднак жа гісторыя назбірала ўжо шмат параўнаўчага матэрыялу, каб можна было зрабіць пэўныя абагульняльныя высновы, зыходзячы з канкрэтнай беларускай сітуацыі.

Лукашэнка звяртаецца і шукае падтрымкі ў людзей, якія няздольныя правесці элементарны аналіз бягучых і гістарычных падзей. „Апрацоўка мазгоў" адбываецца ў рамках той чорна-белай застылай схемы, якую ўсталяваў *Иосиф Виссарионович* і якая, як ні дзіўна, сваімі глыбіннымі каранямі сягае адвечнай парадыгмы змагання дабра са злом. Адапатаваны да савецкіх патрэбаў, гэты прыём скарыстоўвае шэраг паняццевых апазіцый: Савецкі Саюз (добры) — Захад (злы); сацыялізм — капіталізм; калектывізм — індывідуалізм; дзяржава — асоба; калгас — аднаасобны гаспадар; беднасць — заможнасць; прэзідэнт — парламент; *etc., etc.* Гэткая светапоглядная схема настолькі ўелася ў мозг *homo sovieticus*, што тут не трэба ніякіх дадатковых тлумачэнняў — чалавек рэагуе на падобную апеляцыю, калі можна так выказацца, фізіялагічным разуменнем. Дэмакраты, са сваім памкненнем растлумачыць складанасці постсавецкай сітуацыі ў рамках іншай светапогляднай схемы, сутыкаюцца з мурам няўцямнасці, а часцяком і варожасці, як *болтуны, умники и очковтиратели.* У іх няма шанцаў пераканаць гэты электарат да дэмакратыі дэмакратычным шляхам. Электарат можна толькі падмануць.

Ельцын здабыў уладу гэткім падманам, калі „распусціў" Савецкі Саюз і выкінуў з гульні *болтуна (но отнюдь не демократа)* Гарбачова. Пакуль народ спахапіўся, што дзеецца, Расея пачала эканамічна-палітычныя рэформы ў бок капіталізму і дэмакратызацыі. „Левабярэжная" Украіна прагаласавала за Кучму і адбудову Савецкага Саюза, а Кучма зрабіў сюрпрыз, як свайму электарату, так і „правабярэжным" *самостійникам* — пачаў будаваць незалежную дэмакратычную дзяржаву. Беларусі не пашанцавала — падманшчык прыйшоў, але з іншым падманам.

Феномен масавай падтрымкі ўрада, які „запускае" заводы і вядзе краіну ў эканамічнае банкруцтва, становіцца яснейшым, калі ўзяць пад увагу, што беларускі сацыяльны мінімум шмат якім еўрапейскім нацыям можа падацца нямнога вышэйшым за стандарт гулагу. Лукашэнка кажа электарату, што ягоныя галоўныя дасягненні тры — людзям цёпла зімою, у іх ёсць хлеб, а часам і да хлеба. Народу, які ў генетычнай памяці хавае досвед харчавання крапівой і дубовай карою, гэты стандарт усё яшчэ бачыцца дабрадзействам. А ўжо час брэжнеўскага *застоя* явіцца як прыстань *земной благодати.* Пакуль у людзей такое адчуванне сваёй біялагічнай вартасці, датуль Лукашэнка (або іншы палітык такога кшталту) можа кіраваць свой цягнік *в светлое прошлое.*

Аднак жа эканоміку нястрымна зацягвае ў дрыгву, і прэзідэнту трэба замаскаваць сваю гаспадарчую некампетэнтнасць. У гэтай маскіроўцы праяўляецца ўвесь геній Лукашэнкі як палітыка, які дасканала разумее і выкарыстоўвае савецкі менталітэт. Людзям патрэбны простыя адказы на складаныя праблемы, і ў Лукашэнкі гэткі адказ адзін — аб'яднаемся з Расеяй, пачнем прадаваць свае вырабы на расейскі рынак, нашы пенсіі параўнаюцца з расейскімі, і зажывём як раней. І гэта ўсё. Паколькі такая схема чамусьці не хоча задзейнічаць, значыць, ёсць ворагі такой *обустройки*, як у Беларусі, так і ў Расеі. З беларускімі ён як быццам справіўся паспяхова. Чарга на расейскіх?




*Артур КЛІНАЎ, „Чаяпіцце", 1995 г., палатно, алей.*

Надзея Лукашэнкі на *кремлёвский престол* абапіраецца на падобную „біялагічна-светапоглядную" сітуацыю расейскага электарату. Настальгія па савецкаму часу сапраўды вялікая, а хоць рэальныя зарплаты ў Расеі вышэйшыя за беларускія, далёка не ўсе іх атрымоўваюць. Людзі ахвотна падстаўляюць вушы пад той лукашэнкаўскі просты адказ. Лукашэнка спазнаў спакуслівы смак *всесоюзной* папулярнасці падчас святкавання 50-тай гадавіны перамогі над фашызмам на Паклоннай гары (мемарыял на Курскай дузе), дзе ветэраны з абшараў колішняга Савецкага Саюза недвухсэнсоўна далі яму зразумець, што на чале *нового СССР* яны ахвотна бачылі б маладога і энергічнага *Сашу* замест непаваротлівага і азызлага ад п'янства *беловежского предателя Бори.* З таго часу Лукашэнка зрабіў неверагодна шмат, каб *продвинуть свои дела* ў Расеі, аднак жа апошні рэфэрэндум, на маю думку, паклаў канец яго палітычнай мроі. Рэферэндум стаў ягонай Піравай перамогай.

Масква паказала, па-першае, што кантралюе сітуацыю ў Беларусі і Лукашэнкі не баіцца (магла ж яго патапіць *в три мига в эту роковую ночь* 21-22 лістапада) і, па-другое, што кантралюе сітуацыю ў сябе, і савецкаму рэцыдыву ў выглядзе „лукашызму" ходу не дасць.

Так што „кіраўніку аб'яднаных Расеі і Беларусі" прыйдзецца задаволіць сваю амбіцыю ўсяго адной Беларуссю. Стаўка Лукашэнкі на насілле заслужыла яму не толькі еўрапейскую ізаляцыю, але і амаль зусім дэвальвавала ягоныя акцыі як сур'ёзнага палітыка сярод антыельцынскай апазіцыі. Беларусь са сваім псеўдафашыстоўскім палітычным укладам і паўфеадальнымі гаспадарчымі адносінамі раптам стала адкрыта трактавацца расейскімі палітыкамі не як партнёр, а ўсяго як яшчэ адзін „суб'ект федэрацыі", накшталт Татарстана. Гульня з пазіцыі кіраўніка незалежнай дзяржавы давала Лукашэнку шанц *общаться* з расейскай палітычнай элітай, на нейкі час зрабіла яго ідалам расейскіх сродкаў масавага пераказу і прывяла да папяровых перамогаў накшталт мытных, эканамічных і палітычных саюзаў з Расеяй. Чарнамырдзін жа, ратуючы Аляксандра Рыгоравіча, паказаў яму ягонае месца, і цяпер шанцы беларускага „бацькі" засецці ў Крамлі такія ж, прыкладам, што і ў губернатара Тульскай губерні. Правілы гульні пачаў дыктаваць *барин.*

Гэтак уяўляецца карціна, калі глядзець збоку, прыкладам, з Беластока. З яшчэ большай адлегласці, скажам, з Парыжа ці Лондана, усе гэтыя памкненні беларускага правадыра трактуюцца ў жанры палітычнага анекдота. Зусім інакш, я гэта добра разумею, сітуацыя бачыцца з пазіцыі чалавека, які жыве ў Беларусі. Татальная лукашэнкаўская прапаганда ў радыё, тэлебачанні і прэсе, накіраваная на разбуджванне цёмных інстынктаў чалавечай душы і выкліканне нянавісці да *врагов народа*; нагнятанне страху пры дапамозе прэзідэнцкай палітычнай паліцыі (спецыяльных службаў); звальненне з працы працаўнікаў рэжыму — усё гэта паралізуе грамадства і выклікае песімістычныя настроі сярод апазіцыі. Лукашэнка пачынае быць успрыманы як нейкі дэман, надзелены сатанінскай місіяй у „гаротнай і сінявокай Беларусі". Мне асабіста цяперашняя сацыяльная і палітычная сітуацыя ў Беларусі *wypisz-wymaluj* нагадвае час пасля ўвядзення ваеннага становішча ў Польшчы ў снежні 1981 г. Рэжым Ярузельскага таксама быў ізаляваны сусветнай грамадскасцю (акрамя „саюзнікаў з лагера", якімі для Беларусі цяпер з'яўляецца ўсяго адна Расея), таксама скарыстаў рэпрэсіі супроць палітычных апанентаў, вёў беспардонную („урбанаўскую") прапаганду, і спрабаваў гуляць у „рынкавы сацыялізм" (няўдала спроба рэфармаваць сацыялізм дзеля захавання сацыялізму). Час той спарадзіў хвалю палітычнай эміграцыі з Польшчы, але таксама згуртаваў апазіцыю, якая была ў змозе пераняць уладу ў 1989 г. Шмат што, безумоўна, не ўкладваецца ў гэтую схему (прыкладам, беларуская апазіцыя не будзе мець такой моцнай міжнароднай падтрымкі, як дэлегалізаваная „Салідарнасць"), але аналогія настолькі выразная, што можна ўпэўнена спрагназаваць некаторыя хады рэжыму і апазіцыі на бліжэйшую будучыню.

Гэтага я рабіць тут не буду, а звярну ўвагу на адну асаблівасць постсавецкай сітуацыі, якая ў Беларусі выступіла ў паталагічнай, можна сказаць, пачварнай форме. Гэта — татальная дэмаралізацыя і карумпаванасць *homo sovieticus* у ягонай „інтэлігенцкай разнавіднасці". Лукашэнка, кажучы моваю гандлю, купіў папярэдні Вярхоўны Савет *оптам*, а цяперашні *ў розніцу*, таксама, дарэчы, як і сродкі масавай інфармацыі, усіх чыноўнікаў зверху данізу і бальшыню гэтак званых дзеячаў культуры. Можна называць „просты народ" дурной калгаснай масай, але нельга скідаць з уліку гэтую небывалую прадажнасць „лепшых прадстаўнікоў", якія пайшлі служыць рэжыму за грошы. Пашыраная ў былым СССР думка, што Беларусь — найбольш развітая ў сэнсе маральным і культурным рэспубліка, знаходзіць сваё злавеснае пацвярджэнне ў лукашэнкаўскую эпоху (з дробнай заўвагай — калі гаварыць пра савецкі стандарт маралі і культуры, які з'яўляецца своеасаблівым негатывам еўрапейскіх узораў). (Як жа адрозным на гэтым фоне бачыцца пазіцыя польскай інтэлігенцыі ў часы ваеннага становішча і зыходу сацыялістычнай сістэмы.) Хопіць аднаго індывідуальнага — неверагоднага, але праўдзівага — прыкладу. У час прэзідэнцкіх выбараў былы прэм'ер Кебіч і ягоны прапагандыст палкоўнік Замяталін спрабавалі зрабіць з Лукашэнкі жуліка і злодзея, сшыўшы яму справу з крадзяжом асабістых рэчаў адной сцюардэсы. Цяпер палкоўнік Замяталін працуе прапагандыстам у Лукашэнкі, а Кебіч атрымлівае сваю выплату ў лукашэнкаўскай палаце „лепшых прадстаўнікоў". Цяжка паўстрымаць руку ад яшчэ аднаго прыкладу: перад рэферэндумам падаў у адстаўку прэм'ер Чыгір, выказаўшы нязгоду з лукашэнкаўскай палітыкай. У любой еўрапейскай дзяржаве такі крок пацягнуў бы за сабою адстаўку ўсяго кабінета, хаця б *pro forma* і дзеля лаяльнасці перад шэфам кабінета... У Беларусі, акрамя аднаго міністра і аднаго віцэ-міністра, усе астатнія засталіся на сваіх пасадах, чакаючы ці то правадыровай узнагароды, ці то выспятка... Уражанне такое, што і адно і другое яны ўспрымуць з аднолькавай удзячнасцю і асалодай.

І ўсё ж, і ўсё ж... На фоне гэтай амаль татальнай палітычнай прастытуцыі, у Беларусі яснее надзеяй пакаленне *перестройки* — людзі, якім у 1986 г. было пад дваццаць гадоў. Можна прыняць як аксіёму, што гэтае пакаленне не пойдзе за Лукашэнкам ні пры якіх абставінах. Цяпер іхнія дзеці ўжо пачалі хадзіць у школу. Што ж, не навучаць іх там ні беларускай мове, ні гісторыі, але і *павликов морозовых*, здраднікаў бацькоў для правадыра, таксама з іх не зробяць. Гэта кардынальная розніца паміж лукашызмам і сталінізмам ці гітлерызмам. Гэтыя апошнія два рэжымы, акрамя тэрору, абапіраліся і на сапраўдны ідэалістычны энтузіязм і падтрымку маладога пакалення, падманутага „месіянскай" ідэалогіяй (Сталін і Гітлер) і сапраўдным гаспадарчым цудам (Гітлер). У Лукашэнкі няма ні прывабнай ідэалогіі, ні гаспадарчых поспехаў. Застаецца тэрор і карупцыя як галоўныя рычагі дзяржаўнай палітыкі. І дарога — у нікуды...

Будучыня кажа *так* для незалежнай Беларусі. А будучыні ж няма ніякай альтэрнатывы. Нават калі б доля падтрымкі для Лукашэнкі ў наступным рэферэндуме ўзрасла да 120%.

**Ян Максімюк**

# Рускія — добрыя людзі

**Язэп ПАДЛАШЧЫК, жыхар вёскі Алексічы, нарадзіўся ў 1909 годзе. Калі адпраўляліся ў бежанства, яму было 6 гадоў. Спадар Падлашчык шмат перажыў у сваім жыцці, але найбольш выразна захаваўся яму ў памяці вобраз пабыўкі ў Расіі ў 1915-1921 гадах.**

У бежанства падаліся ўсе праваслаўныя жыхары вёскі, — успамінае Язэп Падлашчык. — Некаторыя католікі таксама спачатку паверылі царскай прапагандзе і рушылі на ўсход, але зараз вярнуліся. Праваслаўным святары ў цэрквах гаварылі, што як прыйдуць немцы, тады жанчынам грудзі будуць адрэзваць, а таксама здзекавацца над дзяцьмі і мужчынамі. Ніхто не хацеў стаць ахвярай такіх праследаванняў і таму ўсе без выключэння падаліся ў Расію. З пачатку ехалі коньмі, але пасля вымушаны былі перасесціся на цягнік. Мой бацька быў у царскай арміі і таму ў бежанства падаліся толькі я, маці і старэйшы брат Аляксей. Спачатку трапілі мы ў Ржэў Цвярской губерні. Там выращылі чакаць бацьку. Сярод рускіх добра было жыць, бо гэта быў незвычайна добры народ. Апошнім кусочкам хлеба дзяліліся з намі, калі прыйшла рэвалюцыя і голад. Але пакуль было спакойна, давалі нам усё, чаго мы патрабавалі. Каляды ці Вялікдзень святкавалі мы не менш багата, чым у сябе дома.

У 1917 годзе вярнуўся з фронту бацька, а ў Расіі пачалася рэвалюцыя. Мы пакінулі Ржэў і падаліся далей на ўсход, у Чэлябінск. Думалі, што там будзе спакайней і лягчэй знайсці працу. Чэлябінск тым часам заняла армія генерала Калчака, якая змагалася з бальшавікамі. Там знаходзіўся таксама чэшскі корпус, які падтрымліваў „белых”. Пакуль у горадзе стаяла армія Калчака, можна было жыць. Я прадаваў газеты. Найбольш ахвотна людзі куплялі „Утро Сибири” і „Вестник Приуралья”, а найлепей можна было зарабіць у рэстаранах, дзе „выпівалі” афіцэры Калчака. За газету, якая каштавала паўрубля, плацілі яны два рублі і гаварылі: „Мальчик, сдачи не надо”.

Амаль тыдзень каля Чэлябінска ішло змаганне войск Калчака з бальшавікамі за горад. Некаторыя жыхары віталі „чырвоных” як вызваліцеляў. Але зараз пасля іхняй перамогі ў горадзе пачаўся голад, а за ім прыйшла эпідэмія тыфу. Трупы доўга ляжалі на вуліцах, пакуль іх пазбіралі. Каля могільніка капалі тады равы, клалі туды памерлых і палівалі „карбалінам”, каб хвароба не распаўсюдзілася. Калі ўжо равы запоўніліся трупамі, засыпалі іх зямлёю. У горадзе гаварылася, што людзі з'ядалі людзей ад голаду, але я гэтага не бачыў. Мой брат Аляксей атрымаў працу ў Тубачкі. Так называлі нейкі замежны фонд дапамогі ахвярам вайны на Сібіры. Дзякуючы Аляксею, мы мелі сухое малако. Варылі яго і абменьвалі на хлеб.

Пры „чырвоных” я ўпершыню пайшоў у школу. Спачатку ўрокі пачыналіся малітвай, але неўзабаве гэта было спынена. Бальшавікі арыштавалі таксама ўсіх бацюшкаў. Двух адпусцілі дадому, таму што людзі сабралі подпісы пад прашэннем да ўлад, у якім гаварылася, што гэтыя святары вельмі добра адносіліся да вернікаў.

На ўскраіне Чэлябінска была турма. Недалёка ад яе рос лес. У месцы, дзе знаходзілася гарадская звалка, ноччу часта раздаваліся выстралы. У дзень я хадзіў з калегамі паглядзець, што там дзеялася ноччу. Найчасцей ляжала там некалькі асоб з прастрэленымі галовамі. Неяк дзіўна трымалі яны пальцы рук, быццам бы смерць прыйшла, калі яны хрысціліся.



У 1921 годзе было аб'яўленне, што бежанцы могуць вяртацца ў свае мясцовасці. Беспраблемна даехалі мы ў Мінск і тут вагоны з бежанцамі затрымаліся на цэлы тыдзень. Не было чаго есці і прыйшлося мне тады ўпершыню жабраваць.

У Алексічы мы вярнуліся апошнімі. Наша зямля звыш шасці гадоў не бачыла плуга. Мяне, дванаццацігадовага хлопца, паслалі пасвіць вясковых кароў і свіней. Найгорш было пільнаваць свіней, калі ішоў дождж. Неўзабаве бацькі адправілі мяне за парабка ў Загрушаны. Збіраючы грош да граша, будавалі хату. Затым працаваў я ў краме ў Заблудаве, а пасля вайны быў солтысам, старшынёй Грамадскай рады ў Гнецюках, але ўжо на сваёй зямлі, сярод сваіх людзей, знаёмых і сваякоў.

**Запісаў Яўген Міргановіч**

# Дэкламатарскі конкурс

12 снежня г.г. у Нарве адбыўся гмінны дэкламатарскі конкурс „Роднае слова” для вучняў пачатковых школ, арганізатарамі якога з'яўляліся Нарваўскі Дом культуры, Пачатковая школа ў Нарве і ГП БГКТ.

У конкурсе прыняло ўдзел 19 вучняў з чатырох школ:

школа ў Нарве — 8 асоб, настаўніцы Ніна Абрамюк і Галіна Лапінская;

школа ў Крыўцы — 4 асобы, настаўніца Надзея Міхальчук;

школа ў Ласінцы — 4 асобы, настаўніца Валянціна Базылюк;

школа ў Трасцянцы — 3 асобы, настаўніца Анна Мінько.

Узровень падрыхтоўкі вучняў да конкурсу быў даволі высокі, у чым заслуга настаўніц беларускай мовы, а таксама дэкламатараў.

Конкурсная камісія ў складзе: Васіль Сакоўскі, Янка Целушэцкі і Віктар Швед (старшыня камісіі) прысудзіла дэкламатарам наступныя месцы:

**Група вучняў II—V класаў**

**I месца** — **Паўліна Пашко** (Ласінка), два **II месцы** — **Анна Дудзіч** (Ласінка) і **Міхаліна Гева** (Нарва)

і тры **III месцы** — **Каміля Каролька** (Нарва), **Ева Грынявіцкая** (Нарва) і **Бэата Мінько** (Ласінка).

**Група вучняў VI—VIII класаў**

**I месца** — **Адам Грынявіцкі** (Нарва), **II месца** — **Юстына Пашкевіч** (Трасцянка),

**III месца** — **Эмілія Андраюк** (Крывец), і **вылучэнне** — **Агнешка Габінская** (Трасцянка).

У падрыхтоўцы і правядзенні конкурсу найбольш папрацавалі дырэктар Нарваўскага дома культуры Ірэна Шастай і яе працаўніца Ева Алімоўская, якая па-мастацку выканала дыпломы пераможцам і ўсім удзельнікам конкурсу. Ад дома культуры былі ўручаны ўсім удзельнікам конкурсу кніжкі беларускай мастацкай літаратуры і быў падрыхтаваны скромны пачастунак. Сціплыя рэчавыя ўзнагароды пераможцам конкурсу падрыхтавала ГП БГКТ. Конкурсную праграму ўдала вяла настаўніца беларускай мовы са школы ў Нарве Ніна Абрамюк.

**В. Ш.**

Барыс Руско

## Квадратура круга

Як убачыць:
у канечнасці — бясконцасць,
у месцы — прастор,
у хвіліне — вечнасць,
у нутры — вонкавасць,
у цемры — святло?
Як ажывіць
заштораныя безнадзеяй
вочы
і сігануць
за плечы зорак,
і на зямлі
угледзець неба,
і аб'явіць:
матэрыя і дух — блізняты,
як твар
у абодвух баках
люстра.

## Канечнасць

Злічу ўсе зоркі ў сусвеце,
крышынкі пяску на пустыні,
і словы ў мовах свету,
і хваляванні нашага жыцця —
малыя і вялікія,
узоры маўчання,
гісторыі зацертыя хвіліны
і крокі ўласныя —
заганныя і добрыя.
Што змесціцца
ў розуме —
злічу.

## Прастора

Расцвілі кветкі прасторава,
і думкі кружацца прасторава.
Да Розуму звяртаюся —
вялікая адлегласць,
рукі кароткія,
і я — зярнятка на задворку,
у імгле імкненні ўласныя,
якіх няма ў падручніках.
Між зоркамі кружу,
шукаю месца на прастору.

## Месца

У радыусе голасу
маё месца,
і дом,
і акно,
з якога бачу прастору —
аж моўкнуць вочы.
У лістоце вяковага дрэва
жывуць усе птушкі,
прышпіленыя да гнязда.
З пульсуючай прасторы
збіраю поры года
і між старонкі памяці
укладваю.

Віслава Шымборска

## Здзіўленне

Чаму ў занадта адной асобе?
Гэтай, а не іншай. І што тут раблю?
У дзень што ёсць аўторкам?
У доме не гняздзе?
У скуры не ў лусцы? З тварам не
лісцем?

Чаму толькі раз асабіста?
Іменна на зямлі? Пры малой
зорцы?
Пасля доўгай непрысутнасці?
За ўсе часы і ўсе водарасці?
Якраз цяпер? Да крыві і косці?
Сама ў сабе з сабою? Чаму
не побач, ані сто міль адсюль,
не ўчора, ані сто гадоў таму
сяджу і гляджу ў цёмны кут
— таксама як з паднятым уверх
ілбом
глядзіць burkлівае, што завецца
псом.

## Схіл веку

Меў быць лепшы ад мінулага
наш XX век.
Даказаць гэтага ўжо не паспее,
гады ў яго палічаныя,
крок хісткі,
дыханне кароткае.

Ужо надта многа здарылася,
што здарыцца не павінна,
а тое, што мела надысці,
не надышло.

Мела набліжацца к вясне
і шчасцю, між іншым.

Страх меў пакінуць горы і даліны.
Праўда хутчэй ад хлусні
мела дабягаць да мэты.

Некалькі няшчасцяў мела
не здарыцца ўжо.
Напрыклад вайна
і голад і гэтак далей.

У пашане мела быць
безабароннасць безабаронных
даверанасць і тым падобнае.

Хто хацеў цешыцца светам
той стаў перад невыканальным
заданнем.
Дурнота не смешная.
Мудрасць не вясёлая.

Надзея
гэта ўжо не тая маладая
дзяўчына
et cetera, на жаль.

Бог меў урэшце паверыць
у чалавека
добрага і моцнага,
але добры і моцны
гэта ўсё яшчэ дзве асобы.

Як жыць — спытаў мяне нехта
ў лісце,
каму я хацела паставіць такое
самае пытанне.
Ізноў так як заўсёды
што вышэйзгаданы
няма пытанняў пільнейшых
ад пытанняў наіўных.

*Пераклала Алена Анішэўская*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Прыгажуні з калектыву „Душкі з пушкі”.*

## Вясёлыя энтузіясты з Нараўкі

6 снежня г.г. „Зорка” наведала Пачатковую школу ў Нараўцы. Прывіталі мяне вясёлыя дзеткі, якія гулялі на школьным панадворку. Прыемна сустракацца з дзяцьмі якія, ведаюць і чытаюць нашу газету.

Дырэктар школы Яўген Валкавыцкі расказаў пра апошнія школьныя навіны. Хаця і зараз нялёгка працаваць у перапоўненых, старых залах, ніхто не наракае. Настаўнікі і вучні жывуць надзеяй.

— Калі ўсё будзе ладзіцца, — кажа спадар Валкавыцкі, — з новага школьнага года пачнем працаваць у новай, сучаснай школе.

— Цяжка цяпер нават наладзіць сустрэчу, — кажа настаўніца беларускай мовы Ганна Кандрацюк. — Няма вольных залаў. І дзеткі з усякіх класаў.

Усё ж такі нам пашчасцілася сустрэцца і пасябраваць. Сярод вучняў, якія ходзяць на беларускую мову, найбольш дзяўчат. Ёсць і хлапчукі. І хаця нямнога іх, затое вясёлыя яны і інтэлігентныя.

— Чаму ты, Дарак, ходзіш на беларускую мову? — пытаецца настаўніца.

Дзяцей разумее яна без лішніх слоў. Згаданы Дарак загараецца ўсмешкай:

— Бо ж трэба, — кажа ўрэшце ён.

Настаўніца дадае, што ў сям'і Дарка ўсе шануюць родную мову. І мама, і старэйшы брат Дарка, усе вучыліся сваёй мове. Культурнаму чалавеку замала карыстацца адно дыялектам.

— А тыя дзеці, што не хочуць з вамі хадзіць на беларускую мову? — пытаюся ў дзетак.

— Яны яе не любяць. Для іх важнае толькі ўсё, што лёгкае.

І праўда, трэба нямала папрацаваць, каб навучыцца культурнай спадчыны свайго народа.

На сустрэчы былі і дзяўчаткі з дзіцячага гурту „Душкі з пушкі”. Урокі беларускай мовы дапамагаюць юным артыстам. Прынамсі зразумелыя ім усе словы песень. А то здараецца часам, што нейкія дзеткі спяваюць і не ведаюць пра што.

Таленавітая салістка Аня, як „старая” размаўляе на перапынку з настаўніцай беларускай мовы. Цікавая справа — таленавітыя дзеткі падсвядома разумеюць важнасць роднай мовы. Ім не трэба нават тлумачыць, навошта ўсё гэта. Пра такія выпадкі я мела нагоду не раз пераканацца.

— Бо ў нас дзіўны свет, — кажуць дзеткі. — Бацькі між сабой размаўляюць па-беларуску, а да нас адзываюцца ўжо па-польску. А мы ж і так усё разумеем.



*Вясёлыя і інтэлігентныя.*

Найбольш цікавае ў гэтым складаным прыкладзе тое, што гэтыя бацькі пасылаюць сваіх дзетак на беларускую мову і спевы.

Мае новыя сябры любяць чытаць „Зорку”.

— Ніколі не прапускаем казак ці крыжаванак, — кажуць яны.

Сярод нараўчанскіх энтузіястаў роднае мовы найбольш паклоннікаў сімпатычнай мышкі Пік-Пік. Спецыяльна, па жаданні сяброў з Нараўкі, мы пастараемся намовіць Людмілу Рублеўскую працягваць аповед пра вясёлую мышку.

А зараз прапануем усім нашым чытачам пазнаёміцца з нараўчанскімі дзеткамі. Іх здымкі мы яшчэ не раз будзем друкаваць у нашай газеце.

Усяго добрага вам маладыя сябры ў Новым 1997 годзе.

**Зорка**
*Фота Г. К.*



*Настаўніца Ганна Кандрацюк са старэйшымі вучаніцамі.*

## Крыжаванкі № 52

### Школьная крыжаванка

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Калі вы правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг. Лозунг дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Даслала Кася ЛЕАНЮК з Гайнаўкі*

- рэчка, якую „поіць” Варта
- гарадскі „лясок”
- смутак, журба
- вада з неба
- пад вачыма
- бывае арфаграфічная
- на бярозе белая
- забіты ў вароты мяч
- чалавекападобны звер
- залатая ў кастрычніку

### Магічная крыжаванка

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Smutek, żal | | | | |
| Uderzenie | | | | |
| Góra | | | | |
| Arab | | | | |

**Адказ на крыжаванку з 48 н-ра:** бура, жэўжык, праца, хан, гравюра, рог, вуж, рэпка, лаўр, жах, рыцар, капа.

Узнагароды — **фламастэры маркі „Staedtler”** — выйгралі: **Уршуля Гегель** з Гарадка, **Наталля Маркевіч** з Ласінкі, **Ілёна Трашчотка** з Дубін, **Эміля Петручук** з Сапава, **Міхал Ялінік** з Гайнаўкі, **Славамір Калнаўс** з Кнарыд, **Іаанна Іванюк** з Катлоўкі, **Давід Кучэўскі** з Нарвы, **Марта Вяршко** з Бельска-Падляшскага і **Жанэта Данілюк** з Гайнаўкі.

Віншуем!

## Цырк у Новым Корніне

30 кастрычніка 1996 г. да нас у школу прыязджаў цырк. Ён мне вельмі спадабаўся. Усе дзеці са школы сабраліся і аглядалі выступленне. На пачатку прыйшоў вясёлы клоун Пляцусь. Ён паказваў нам штукарныя фокусы, гаварыў анекдоты і жангляваў. Мы бачылі таксама змея. Усе дзеці хацелі да яго дакрануцца. Потым быў прыгожы танец сабакі. Наступным нумарам праграмы было тое, як адзін са штукароў стаяў босы і ляжаў на вострых шкельцах. Усе здзівіліся, што ён не пакалечыўся. Калі канчаўся спектакль, усе дзеці хацелі яшчэ аглядаць. Пасля нашы госці прадавалі нам наклейкі, здымкі, давалі аўтографы. Усім дзецям прыгожае выступленне цыркачоў і звяроў вельмі падабалася.

**Андрэй Крук**
**VI клас ПШ у Новым Корніне**

Талон „Зоркі” № 52
29.12.1996

# Чэмпіянат акругі

Толькі 17 лістапада я вярнулася з Англіі, а ўжо 23 лістапада ў Беластоку меў адбыцца чэмпіянат акругі (г.зн. трох ваяводстваў: Беластоцкага, Сувальскага і Ломжынскага) па бальнаму (таварыскаму) танцу ў дзвюх катэгорыях: дзеці да 10 гадоў і ва ўзросце 11—12 гадоў.

Я нават ужо думала, што ў Англію не змагу з-за гэтага чэмпіяната паехаць: пяць дзён, якія застануцца на трэніроўкі, гэта вельмі мала часу. Але нешта цягнула мяне туды. Хацелася ўбачыць Лондан, бо я ж яшчэ ніколі там не была, хаця бачыла ўжо шмат іншых замежных краін.

Пяць дзён, якія мне засталіся да чэмпіяната, мы з маім партнёрам выкарысталі на інтэнсіўныя трэніроўкі. У суботу раніцай адпачывалі, а турнір распачаўся а 16-ай гадзіне ў школе н-р 48 на Зялёных узгорках.

Прыехалі туды а палове другой. Трэба было зарэгістравацца, пасля патанцаваць, каб „разагрэцца", а толькі тады пераапрануліся ў танцавальную вопратку.

Мы вельмі хваляваліся. З трох ваяводстваў у катэгорыі дзяцей 11–12 гадоў мела выступіць 38 пар! Прыехалі найлепшыя танцоры з клубаў „Міро" з Элка, „Кадрыль-Гама" з Бельска-Падляшскага, „Let's Dance" з Голдапа, „Стыль" з Аўгустова, „Ронда" з Ломжы, „Генрысь" з Сувалак і інш.

З Беластока былі прадстаўнікі клубаў „Ціп-топ" (наш клуб), „Вясёлка", „Кадрыль", „Рытм", „Анімуш", „Артэля".

Чэмпіянат пачаўся ад 1/8 фінала. Вядома, мы былі амаль упэўнены, што пройдзем у чвэрць фінал. Прайшлі. Канкурэнцыя была вялікая, і мы пачалі бедаваць, што не пройдзем у паўфіналы. Але прайшлі ізноў.



У паўфінале мы стараліся даць з сябе ўсё. Вырашаўся наш лёс: увойдзем ці не ў фінальныя розыгрышы. Ёсць! Вычыталі нумар 10, наш нумар. Мы ўвайшлі ў фінал.

Цяпер танцавалі спакайней, бо ўжо ведалі, што ніжэй шостага месца не зоймем. Занялі пятае — я і Куба Вайдановіч. Вядома, хацелася б, каб было яшчэ лепш, але пятае месца ў чэмпіянаце трох ваяводстваў гэта таксама някепска.

Пасля фіналістам сказалі, што будзе супольны танец з членамі журы. Мы запрашалі члена журы, якога хацелі, і танцавалі „джайф". А таксама фіналісты танцавалі „румбу" — кожны з іншым партнёрам. Мяне запрасіў Пятрусь Кардашэўскі, ён таксама з нашага клуба і нам лёгка было танцаваць, бо маем тую ж самую праграму.

Сёлета, ад 1 лютага, мы ўзялі ўдзел у 15 турнірах, у асноўным агульнакраёвых.

Пасля турніра я пачала пільна рыхтавацца да семестральнага экзамена ў музычнай школе. Я там вучуся ўжо восьмы год па класу фартэпіяна, дадатковы інструмент — флейта. У мінулым годзе мне сказалі на экзамене па флейце сыграць уласны твор. Я ўжо іх напісала некалькі.

Люблю музыку і танец.

**Адрыяна Семянюк**
**Беласток, школа нумар 9**

# Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Вітаюць Цябе вучні IV класа Пачатковай школы нумар 3 у Гайнаўцы. Дзеці з нашай школы вельмі рэдка пішуць Табе пісьмы. Але мы рашылі пісаць у „Зорку" пра ўсё, што ў нашай школе адбываецца.

21 лістапада да нас у госці прыехаў беларускі паэт, пісьменнік, публіцыст Янка Целушэцкі. Ён расказаў нам шмат цікавага пра свае дзіцячыя гады, пра творчы шлях. У час сустрэчы Янка Целушэцкі зачытаў нам сваё апавяданне „Вожык". Вучням, якія актыўна ўдзельнічалі ў сустрэчы, наш госць падарыў свой зборнік вершаў і апавяданняў „Імгненні". Цяпер мы на ўроках беларускай мовы чытаем некаторыя творы з гэтага зборнічка.

Нашай марай ёсць тое, каб да нас, у школу як найчасцей прыязджалі такія цудоўныя госці.

# Змяіны цар

Ў цёмным небе — хараводы
Сінявcovых зорак,

Ў цёмным небе свеціць месяц
Залатым сярпом...
Мы выходзім з цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

Ў полі, ў лесе нам усюды
Праляглі дарожкі!
Йстужкай рушымся між пушчы,
На сам перад — я.
Зіхацяць маёй кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным блескам адлівае
Ўся луска мая.

Нам не трэба ні ад чога
Ноччу абароны:
А спаткаем чалавека, —
Порт рассцеле ён;
Залаты ражок яму
Я ўраўню з кароны,
І па белай палатніне
Дальш мы папаўзём.

**Максім Багдановіч**

# Каляда ў маёй сям'і

Цэлы дзень перад калядой у кожнай хаце ёсць многа працы. Мама рыхтуе дванаццаць страў, якія пазней апынуцца на калядным стале. Стравы маюць быць традыцыйныя: куцця, кісель, салацаны, селядцы, бліны з капустай, кампот з сушаных груш і яблык, дражджовыя „пляцкі", бурачкі смажаныя з грыбамі і боршч, таксама з грыбамі.

Пад вечар усе ідуць строіць ёлку. Я думаю, што кожны любіць гэта рабіць і з прыемнасцю памагае дзецям. Потым бацька кладзе пад белы абрус сена, а на сцяне вешае вянок зроблены з жыта, які называецца дзед.

Самая прыемная справа — гэта чаканне першай зоркі. Калі зорка паявіцца на небе, уся сям'я садзіцца за стол. Гэты вечар аб'ядноўвае ўсіх людзей і кожны чалавек павінен прабачыць усе крыўды, якія ён зрабіў і якія зрабілі яму.

Пры стале павінна быць адно вольнае месца для нечаканага госця.

Спачатку ўсе разам гаворым малітву і дзякуем Богу за ежу, якую можам спажываць. Пасля выказваем сабе пажаданні. Зычым сабе, каб у наступным годзе зноў усе разам спаткаліся і каб наступная каляда была лепшая і больш багатая.

У цішы з усмешкай на твары каштуем усе стравы, па крысе. Калі скончым есці, талеркі і недаконченую яду пакідаем. Прыбіраць будзем на другі дзень зранку. Старэйшыя кабеты гавораць, што ноччу прыходзяць душы памерлых членаў сям'і пакаштаваць калядныя стравы.

Так святкуюць каляду у маёй сям'і.

**Івона Красоўская**
**вуч. VII класа, вёска Кнаразы**

# Стагоддзе войнаў

Семнаццатае стагоддзе было самым жудасным у гісторыі Беларусі. У 1654 г. армія маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча захапіла амаль усю тэрыторыю нашай дзяржавы. У выніку звыш паўтарагадовай маскоўскай акупацыі Беларусь была даведзена да стану гаспадарчай і дэмаграфічнай катастрофы. Загінула больш чым палова насельніцтва Беларусі. Ва ўсходніх раёнах кашмар гэтай акупацыі перажыў толькі кожны чацвёрты жыхар. У выніку гвалтаў, голаду і хвароб апусцелі цэлыя вёскі і гарады. Зямля ляжала аблогам таму, што не было каму яе араць ні сеяць. Не было таксама каму аднаўляць спаленых гарадоў.

Не паспела Беларусь падняцца з гэтай катастрофы, калі пры канцы згаданага стагоддзя на яе тэрыторыі пачалася вайна паміж шведамі і Расеяй. Працягвалася яна яшчэ і на пачатку васемнаццатага стагоддзя. У выніку прысутнасці на тэрыторыі Беларусі чужых войск, здзекаў і гвалтаў над мірным насельніцтвам, патрацiла жыццё амаль мільён беларусаў. І зноў на доўгія гады пуставалі неараныя землі, абезлюдзелі гарады, кустамі зарасталі вёскі.

Ваенная трагедыя давяла да дэмаралізацыі беларускую шляхту і магнатаў. Замест ратаваць айчыну, вялі яны бесперарыўныя войны паміж сабою. Супраць сваіх канкурэнтаў шукалі яны падтрымкі ў палякаў і расейцаў. Здрадзіўшы сваю айчыну і народ, прымалі яны культуру, веру і мову чарговых акупантаў. Разам з палітычнай, гаспадарчай і дэмаграфічнай катастрофай такія самыя працэсы прайшлі ў галіне культуры і асветы. Набліжаўся канец магутнай калісьці дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага.



*Беларускія казкі.* Малюнак Томка Дзямянюка



Мяне завуць Томэк Дзямянюк. Хаджу ў школу ў Чыжах. Вучуся ў V класе. Вельмі люблю беларускую мову. Люблю зіму. Я вельмі хачу перапісвацца з „Зоркай".

**Томэк Дзямянюк з Падрэчан**

# Чыквін — у Ратушы

Спачатку я падумала, што ізноў я нешта пераблытала. Ужо скончылася, ці я прыйшла зарана? Глянула з дакорам на свой, яшчэ не перастаўлены на зімовы час, гадзіннік „casio", хуценька адняла гадзіну і... усё згаджалася. Была гадзіна 17-ая, панядзелак, 9 снежня 1996 года. У Ратушы ў Беластоку, сярод каштоўных карцін і стыльнай мэблі мела адбыцца сустрэча з вядомым беларускім паэтам Янам Чыквінам, старшынёй літаратурнага аб'яднання „Белавежа", але было амаль пуста.

А ўсё ж такі быт акрэслівае свядомасць, — мільганула ў мяне думка, калі, прайшоўшы ў залу, я налічыла не больш дваццаці пару чалавек — з аўтарам, вядучым Янам Леанчуком, дырэктарам Акруговага музея ў Ратушы Анджэем Ляхоўскім, д-р Тэрэсай Занеўскай, перакладчыкамі вершаў Яна Чыквіна — як бы яго сааўтарамі, з Міхасём Шаховічам і яго сябрам Рышардам Мельке, з Юркам Плютовічам і са мною.

Крыху святла кінула д-р Тэрэса Занеўская, найбольшы літаратурны крытык „белавежцаў". Ян Чыквін, сказала яна, — паэт цяжкі, але тое ж закідалі і Норвіду. Яго верша не прысвоіш між абедам і кавай. Гэта паэт рэфлексійны. Чытач хоць на момант мусіць думаць яго думкамі і чуць біццё яго сэрца. Гэта найбольш арыгінальны з беларускіх творцаў і за сваю арыгінальнасць змагаецца праграмна. Свядомасць — еўрапейская, грамадзянін свету. Хтосьці нядаўна назваў яго беларускім Міцкевічам...

А ўсё адбылося з нагоды выхаду ў свет томіка паэзіі Яна Чыквіна „Odpoczynek przy wyschniętym źródle", першага, які быў выдадзены ў серыі „Свята-янскай паэзіі" Беластоцкім аддзелам Саюза польскіх літаратараў (другі — зборнік вершаў Ежы Плютовіча з Беластока „Rzeka. Cienie na wodzie", трэці — Галіны Тварановіч з Мінска „W nieba utulenie", неўзабаве паявіцца чацвёрты томік паэзіі — Леанарды Шубзды з Саколкі „Tylko sady nas pamiętają"). Ян Леанчук, старшыня Беластоцкага аддзела, паабяцаў, што ў гэтай серыі будуць паяўляцца не толькі перакладзеныя на польскую мову творы збалелай беларускай паэзіі, але і літоўскай, украінскай, італьянскай, арабскай ды паэзіі з іншых экзатычных краін свету. Калі ўсе адвечныя вартасці сёння топчуцца, сказаў ён, мы хочам пакланіцца слову, якое не мяніць.



Прыгожа гаварыла Тэрэса Занеўская пра творчасць Яна Чыквіна, паэта, перакладчыка, гісторыка літаратуры, прафесара Варшаўскага універсітэта. Дагэтуль выйшлі з друку яго зборнікі паэзіі: „Іду" (Беласток 1969), „Святая студня" (Беласток 1970), „Неспакой" (Беласток 1977), „Na progu świata" (Варшава 1983), „Splot słoneczny" (Ольштын 1988), „Светлы міг" (Мінск 1989), „Кругавая чара" (Беласток 1992).

Падставовай катэгорыяй яго паэзіі, сказала Тэрэса Занеўская, з'яўляюцца **пытанні**: ён задумоўваецца над сэнсам жыцця, над дарогай чалавека, над усім, што яго акаляе, адным словам, над загадкай нашага існавання і быту. Гэта тыповы прадстаўнік так званай „чыстай" паэіі, як хтосьці сказаў, глеба і агароднік для сваіх вершаў. Паэзія Чыквіна родзіцца з маўчання. Кожны яго твор гэта скок у нязнанае, у метафізіку. Лейтматыў — думка пра праміннанне і пастаянную зменнасць. І у сувязі з гэтым — песімістычная візія Беларусі, якая праяўляецца раз матывам Пагоні, другі раз чырвонымі каралямі рабіны.

Пасля вершы Яна Чыквіна з апошняга зборніка чыталі Ян Леанчук і галоўны перакладчык яго паэзіі прафесар Францішак Кабрынчук, які, хаця кіруе кафедрай анатоміі жывёлы ў Варшаўскай СГГВ і з'яўляецца спецыялістам па анатоміі зуброў, то аднача сна дзіцячы паэт: выдаў некалькі дзесяткаў кніжак для дзяцей. Як і раіў калісь Гётэ, каб пазнаць чалавека, пайшоў у яго краіну. У краіну Чыквіна.

Дыскусія разгарнулася галоўным чынам не вакол тэзісаў наконт творчасці Чыквіна, якія наканавала Тэрэса Занеўская, а наконт спосабу перакладу. Леанчук сцвердзіў: я б баяўся перакладаць Чыквіна. Пані Тэрэса дадала, што і праф. Кабрынчук калісь сказаў ёй пра адзін верш Чыквіна: як я гэты верш перакладу, то буду „święty turecki", але верш той ёсць!

Ян Чыквін прачытаў з новага зборніка два свае арыгінальныя вершы, напісаныя па-польску, але беларускіх вершаў, прачытаць якія яго прасілі, пры сабе не меў. Затое прачытаў некалькі твораў Чэслава Мілаша, Яна Леханя, Яна Леанчука і іншых, перакладзеных ім на беларускую мову. На пытанне: ці добры паэт — гэта нешчаслівы паэт, адказу даць не мог, а нават, як сцвердзіў, і не адважыўся б.

Шкада, што на сустрэчы амаль не было беларускіх паэтаў-„белавежцаў". Мо пераклад на польскую іх не пацягнуў. Але сустрэча і так была цікавая. Цікавая, хаця паэт не хваліўся сваім басаногім дзяцінствам у Дубічах-Царкоўных і хлебам, змочаным вадою, з цукрам. Больш маўчаў: маляў, няхай яго вершы гавораць самі за сябе.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

P.S. З дваццаці дзевяці вершаў, надрукаваных на трыццаці шасці старонках зборнічка „Odpoczynek przy wyschniętym źródle" мне спадабаўся найбольш гэты. Пераклад Чэслава Сэнюха.

* * *

Przygrzało słonko słodko. Aż w zakątkach
Ruszyło życie po zaciszach. Z pleśni
Nawet homunkulus chce
zmartwychwstać!

A ja kogutka niosę łepek mu obrąbać:
Niemodne zaczął teraz śpiewać pieśni,
Nie rzucił w kąt swój frencz pierzasty,
Nie zskoczył ze swego ołtarza-płotu,
Nie przestał chytrze zwoływać kwoczki —
Chociaż z wyglądu jest niewiniątko,
Niosę go, aby mu łepek obrąbać.

# Няма песень між намі...

Няма цяпер песень між намі, пры стале, няма цяпер песні ў нас саміх, сцвярджаў у сваім дакладзе Ян Бернад з Любліна. Знікае з нашага жыцця не толькі песня, але і мясцовыя дыялекты, адыходзіць у нябыт народнае мастацтва.

Пэўна, найлепш бачачы і разумеючы гэтыя справы, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры вырашыў наладзіць сустрэчу дзеячаў фальклорнага руху 29 лістапада г.г. у так званых „сподках" ці „лётаючых талерках" па вуліцы Св. Роха.

Вывад просты: трэба ратаваць тыя крышынкі, зярняты народнага, якія засталіся і якія могуць яшчэ прынесці някепскі плён. Запрошаны былі дырэктары дамоў і асяродкаў культуры, кіраўнікі і апекуны фальклорных калектываў, людзі, якія звязаны з народнай культурай на штодзень.

Разглядаюся па зале. Поўна знаёмых твараў. У адных была я няраз, другіх ведаю па выступленнях. Вось дырэктар дома культуры ў Гарадку Тамара Бурачэўская і кіраўнік славутага гарадоцкага хору Ніна Цыванюк, вось Люба Гаўрылюк, якая вядзе сёння калектыў у Козліках, Валянціна Франкоўская, кіраўнічка „Тыневічанак" з Вялікіх Тыневіч, Ніна Грыгарук з калектыву „Незабудкі" ў Курашаве, дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, прадстаўнікі Чыжоў, Збуча, Нурца-Станцыі, Арэшкава, Дабрывады, Краснага Сяла, Грабянёў і іншыя, і іншыя.

Дарэк Фіёнік, які сядзіць побач са мною, каментуе: „А ўсё ж праваслаўе моцна яднае людзей! Вось жа і дакладчык Ян Бернад спявае ў Любліне ў царкоўным хоры!"

І сапраўды, яднае, бо мусіць бараніць сваю культуру, каб не расплылася яна ў моры польскай культуры і не знікла. Адсюль — беларускія фальклорныя калектывы найбольш заўважальныя.

У сваім выступленні Зыгмунт Цясельскі, этнограф, галоўны інструктар па народнаму мастацтву і гінучых прафесіях у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры, падкрэсліваў, што недахопам у дзейнасці нашых фальклорных калектываў з'яўляецца іх занадта вялікая стабільнасць: **замала ўцягваем у іх моладзь!**

Вялікую ролю ў захаванні традыцый народнай культуры, сказаў ён, павінны адыграць самаўправы. **Культурныя традыцыі павінны бурліць жыццём, а не ператварацца ў скансэн.**

Неўзабаве выйдзе з друку кніжка З. Цясельскага **„Przeciw kresowi Kresów"**, якую выдае Беластоцкі ВААК (як заўважыў аўтар, ужо зроблена другая карэктура). Лейтматыў кнігі — месца традыцый у сучасным свеце. Толькі свядомасць, мэтанакіраваная дзейнасць выратуе народную культуру або прынамсі зможа абмежаваць працэс яе адміраня.

А дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі як бы падсумаваў усё, заклікаючы, каб людзі культуры не складалі зброі, словамі вялікага філосафа Тадэвуша Катарбінскага: „Цяжкасці існуюць дзеля таго, каб іх перамагаць!"

Цешыць нас, што сярод узнагароджаных значком „Заслужаны дзеяч культуры" былі прадстаўнікі беларускіх калектываў, тыя, што не атрымалі яго раней. Вось **Валянціна Франкоўская**, якая разам са сваімі сёстрамі Вольгай Свентахоўскай і Нінай Савіцкай амаль 17 гадоў таму заснавала калектыў „Тыневічанкі"; **Ніна Яўдасюк** з Дабрывады, якая спявае столькі, колькі існуе калектыў, г.зн. 27 гадоў, а таксама яе сяброўкі — **Валянціна Клімовіч**, **Барбара Ліпінская** і **Антаніна Ліпінская**; **Надзея Андрасюк** і **Ніна Аверчук** з калектыву „Арэшкі", **Ян Петушынскі** з калектыву „Гранд" у Грабянях, беларускі дзеяч **Аркадзь Суліма** з Дуброва і іншыя. Узнагароды ўручалі дырэктар Аддзела культуры ВУ Казімеж Дэркоўскі і намеснік дырэктара ВААКа Барбара Пахольская.

Некаторым было сумнавата, што ім сёння нічога не ўручылі, але што зробіш, калі ўзнагародай ведамства культуры для лакальных дзеячаў з'яўляецца значок „Заслужаны дзеяч культуры", а яго ўжо большасць прысутных атрымала даўно. Вось і Ніне Грыгарук, кіраўнічцы „Незабудак" з Курашава, якія толькі што адсвяткавалі свой 20-гадовы юбілей, нехта намякнуў, што бывае будзе нешта большае. Праўду сказаў, бо рыхтуецца штосьці, але пра гэта павінна яна запытацца ў чыжоўскага войта, бо гэта яго дзялянка. Давядзецца крыху пачакаць, але, думаем, што вясною ўжо будзем цешыцца разам з „Незабудкамі". Во дзе будзе баль!

Развесяляў прысутных у „сподках", як мог, калектыў сеніёраў „Шпілька", што працуе пры Ваяводскім асяродку анімацыі культуры. Гумар быў падчас нават і вельмі дасціпны. Калектыў гэты існуе ўжо 15 гадоў і даў больш 500 канцэртаў. Вядучую ролю ў калектыве адыгрывае вядомы член гарадоцкага і беластоцкага беларускіх хораў Юрый Налівайка.

**Ада Чачуга**

# Якая карысць з дзеда

Каму не страшна думаць пра „блізкасць далёкага"? Хіба толькі дзецям і здаровай моладзі, якім здаецца, што яны — вечныя, а будучыня — неабмежаваная. Несумненна, малады чалавек не павінен думаць пра хваробу і спачын на ціхім месцы ў пошуме могільнікавых бяроз. А ці мне, старому, хочацца страціць хоць адзін дзень з таго часу, які мне яшчэ Бог прапануе? Не!! Кінуў курыць, хоць здаўна ведаў, якое шкоднае смаленне цыгарэт, і павінен быў гэта зрабіць раней на якіх дваццаць гадоў, бо і тады дурны не быў. Не п'ю таксама, от, час ад часу наперстачак, бо пішуць, што гэта добра для сэрца. Адзін мой знаёмы, не скажаш, што п'яніца, калі хто не п'е ў кампаніі, мае звычку пытацца: „Ты дурны ці хворы?" Нават дамам такое пытанне ставіць. Я заўсёды пры імаднекваюся, нават малакультурна кілішак стаўлю дагары ножкай. Маўчу, за каўнер жа ж мне гарэлкі не выльюць. Але адна жанчына ўпала ў істэрыку і хлюпнула дзядзьку гарэлкай у вочы, так ужо нахабна да яе прыставаў, тыцкаў кілішак у руку. Калі б ён не быў выпіўшы, можа, штосьці зразумеў бы, але зграбастаў торт, бабухнуў даме ў дэкальтэ, схапіў відэлец ды паганіў няшчасную паміж сталамі. Ледзьве яго ўласная жонка абяззброіла! Маладой пары (ён жа хросны бацька нявесты) нарабіў сораму. На другі дзень бажыўся, што нічога такога не памятае.

Прабаваў я адвучыць курыць маіх пляменнікаў. Павучанне і адмысловая літаратура нічога не далі. Узяў я рэштку сваё пенсіі ды павёў Рудзіка з Крыстыянам на гіпноз па метаду Даўжэнкі. Упіраліся, але для жарту пайшлі. Закадавалі іх на год. Праўда, не смалілі, нават да цыгарэт блізка не падыходзілі. А цяпер кураць, бо на наступны сеанс грошай не маюць — абодва беспрацоўныя, а мне няма ўжо ахвоты зноў вадзіць за ручку гэтых бязвольных мужыкоў лячыць такім спосабам. І так на мяне Крыстыян кажа „wyjątkowy wapniak", а Рудальф дадае: „nie wiedziałem, że faceci dożywają takiego wieku".

Значыць, і ён, маладзён, думае пра тую „блізкасць далёкага", на жаль, толькі маю, і з мяне, бяздзетнага, спадзецца ўзяць пасля майго адыходу нейкую спадчыну. Ха-ха! Сам чуў, як хлопцы лічылі, колькі я мог ашчадзіць за сваё доўгае жыццё: хата невялікая, машыны не мае, не п'е, не курыць, толькі кніжкі збірае, як які апантаны! Ах, хлопчыкі не ведаюць аднаго: дзяўчатак вельмі люблю! Малым куплю цукеркі і кніжкі, дамам старэйшым — кветкі і ваджу іх у тэатр ды кіно і, калі ўдасца, і ў іншыя месцы. Дзед як дзед, але карысць з мяне немалая!

**Вандал Арлянскі**

# Ваенныя ўспаміны

Парфірый Апольскі нарадзіўся ў Мінску ў 1916 годзе, у бежанстве. Калі сям'я вярнулася ў сваю вёску Супруны, хадзіў ён у трохгадовую школу ў Адрынкі. Навука адбывалася толькі зімою, бо ў другія поры года трэба было пасвіць быдла: сваё і чужое; чужыя плацілі збожжам. Калі падрос, працаваў на гаспадарцы.

У войска ўзялі ў Ломжу, у сапёрскую часць. Служылі там хлопцы з усяе Польшчы. У *плютане* было чатыроx праваслаўных. Нядзелямі хадзілі ў царкву; вернікаў там было мала, а ў казармах за тое, што праваслаўны, ніхто не чапляўся — нікому гэта не дакучала. Служыў у 1937—39 гг. і там засцігла яго вайна. Мініравалі масты на Нарве, а таксама ставілі пантоны. Падвозілі на фурманках, скідалі, раўнялі ў радок, закідалі, і войска пайшло! Дошкі пантонаў габляваныя былі, пакрашаныя. Каля Граева рэзалі лес, каб палі супраць танкаў ставіць; такія загарадзі паставілі ў Пянтніцы, што перад Ломжай. Накіраваліся яшчэ ў напрамку Астралэнкі, але там немец ужо стаяў. У дарозе акружылі нас. Старшынства думала прабівацца ў напрамку Беластока, але не хапала на гэта сіл. Тады вывесілі белы флаг і здаліся.

Немцы пагналі нас у Ломжу, але пасялілі нас у другіх казармах, бо нашы былі разбіты бомбамі. Многа палонных назбіралі, а пасля пяшком пагналі ў Растэнбург (сёння Кэнтшын). Два тыдні трымалі нас там у падвале; салому на падлозе разасалі. Варылі бручку і мяса з пабітых на вайне коней. Жыдоў немец адразу аддзяліў, а яны цешыліся, бо думалі, што ім лягчэй будзе, бо мову нямецкую ведаюць. Брыўся толькі той, хто свае прылады для брыцця меў. Я меў брытву, але брытвы нельга было мець; дзяліўся ёю з дзесяццю калегамі, скрытна перадавалі сабе.

Пасля вывезлі ў Фромбарк, бульбу і буракі ў гаспадароў капаць. Потым малацілі. Замыкалі нас нанач у закратаванай будцы. У адной бялізне быў — не змяняў — праз тры ваенныя гады. Спалі седзячы. На другі год прывезлі французаў, дык мой гаспадар аддаў мяне свайму швагру, што жыў кілametр далей, на калёніі. Парабкам там я быў, даглядаў коней — шэсць было. Араў, чысціў, вазіў. Там недзе з паўгода быў, а затым завезлі ў Ольштын, у Арбайтсамт. Адтуль далі мяне новаму гаспадару, таксама каля Ольштына. Там я і яшчэ трох рашылі ўцякаць. Прайшлі пяшком аж да Лапаў. Адзін *мазур* нас праз рэчку пераvёў, але напароліся на фолькcдойча з сабакам. Той учапіўся да нас, хто мы, бо на мне вайсковае адзенне было. Ідзем мы з ім па-над рэчкай, двух спераду, а двух ззаду яго... Далі яму *бокса*, і паляцеў ён у ваду, а сабака за ім кінуўся, і мы ўцяклі. А мы ходу! У кусты, бо дубальтоўку ён меў. Неўзабаве раздзяліліся, бо двух з Аўгустова было, а адзін з Ваўкавыска. Ужо жаць пачыналі, у 1942 годзе. Начавалі, дзе ноч захапіла, нават на могілках. Паляки вельмі добра нас прымалі, лепей за нашых, бо партызанаў не баяліся.



Вярнуўшыся ў Супруны, абрабляў гаспадарку; паперы мне адзін з Ціванюкоў, што ў немца служыў, вырабіў. Хадзілі партызаны; нічога не рабілі, заходзілі толькі, каб паесці далі — асабліва гарэлку любілі. Былі савецкія, але і свае даходзілі. Людзі баяліся даваць, але і не даць было немагчыма. У Польку, праз партызанаў, немец мужчын пабіў, а жанчын павывозіў. Як ішоў фронт, немцы ў Адрынках акапаліся, тры дні стаялі, пакуль саветы ў Бяндзюзе „Кацюшы" не паставілі і не далі па іхніх акопах, тады немцы ўцяклі. Многа саветаў загінула, ляжалі пры дарозе як *слёзі*. А нашу вёску немцы спалілі, каб бачыць рускія акопы.

Калі ад Плянтаў наступілі савецкія тылы, пачалі людзей браць. Мяне ўзялі ў Свіслач, потым у Бераставіцу. Там нас падзялілі так, як граніцу вызначылі. Крыху папрацавалі мы раскручваючы чыгуначныя рэйкі, што немцы парвалі. Пасля тых, што аказаліся пад Польшчай, звольнілі. Палякі ўжо ў войска не бралі, хадзілі толькі на міліцыю.

Пасля вызвалення ездзіў на заробкі пад Гданьск, за Эльбланг, мост там на канале будаваў. Яшчэ і тры разы ў Ольштын падаваўся, зімою — хату трэба было ставіць...

**Запісаў і фатаграфаваў**
**Аляксандр Вярбіцкі**

## „Школа дэмакратыі"

Пад такім лозунгам прайшоў ў Гданьску семінар, у якім, па запрашэнні Ваяводскага сейміка, прымалі ўдзел прадстаўнікі няўрадавых аб'яднанняў з Беларусі. Арганізатарам з беларускага боку быў Рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі. Прысутнічала ў семінары 15 асоб, якія прадстаўлялі розныя арганізацыі, між іншым, Беларускі фонд Сораса, Беларускую асацыяцыю журналістаў, Жаночую асацыяцыю „Ульяна", Таварыства беларускай мовы, Цэнтр праблем самакіравання. Сярод іх былі вядомыя асобы — журналіст радыё „Свабода" Уладзімір Глод і паліголагі, якія публікуюць свае выказванні ў „Gazecie Wyborczej" Уладзімір Роўда і Алесь Коцікаў. Прысутныя змаглі пазнаёміцца з польскім вопытам у галіне самакіравання ў дакладах старшыні Гарадской рады Гданьска Паула Адамовіча і старшыні гданьскага Ваяводскага сейміка Гжэгажа Гжэляка. Былы галоўны рэдактар „Dziennika Bałtyckiego" Якубоўскі распавядаў пра свабоду медыяў у сучасных умовах Польшчы. Цікавым атрымаўся ўдзел 21 лістапада ў пасяджэнні Рады горада Гданьска і сустрэча ва Управе горада Сопата. Падчас пасяджэння Рады горада Гданьска выступіў Сяргей Альфер, прадстаўнік Фонду імя Льва Сапегі, з інфармацыяй пра падзеі ў Беларусі перад рэферэндумам.

Ва Управе горада Сопата пра сам горад і яго атракцыёны, а таксама мерапрыемствы праўлення горада расказаў гасцям старшыня Гарадской рады Тадэуш Табэаў. Пра дзейнасць пазаўрадавых арганізацый у Сопаце расказаў Славамір Касакоўскі, які з'яўляецца ўпаўнаважаным па справах тых жа арганізацый. Госці мелі нагоду пабачыць Гданьск і Сопат і паназіраць за зменамі, якія прыйшлі разам з палітычнымі пераменамі.

20 лістапада ў Беларускім клубе ў Гданьску дэлегацыя сустрэлася з гданьскімі беларусамі. Была нагода для абмену думкамі і для інфармацыі пра падзеі ў Беларусі.

**Лена Глагоўская**

# Без шчасця, без долі...

**Пра бежанства расказвае 85-гадовая Вольга НІКІЦЮК, жыхарка вёскі Мокрае Бельскай гміны.**

Бацька мой, Ілья Яканюк, гаспадарыў у Казлах на адным участку зямлі. Пасажная чацвяртуха маці заставалася ў Мокрым. Цяжка было пракарміць дзевяць душ з невялічкай гаспадаркі.

Калі ў наваколлі загаварылі пра вайну і надыход немцаў, у вёсцы закіпела. Людзі спалохана спаглядалі ў той бок, адкуль пачалі паказвацца першыя фурманкі бежанцаў.

Пагрузіліся мы на падводу, сямёра дзецюкоў, бацькі і дзядзька з жонкай. Забралі з сабою неабходны запас яды. Падаліся ўслед за табарам.

Як доўга ехалі, якімі дарогамі, не памятаю. Мне тады было два з паловай гады. Матуля пазней расказвала, што ўсе кіраваліся ў Расею. Ехалі ў дзень. Нанач спыняліся. Начавалі ў чыстым полі, пад фурманкамі. Калі траплялся лес, адпачывалі ў буданах, збудаваных з галінак дрэў. У канцы прыехалі ў вялікую вёску. Гэта была наша прыстань.

Вёска называлася Алабушка. Добра я запамятала назву, бо тут памёр мой татуль, незадоўга пасля прыезду, перад Калядамі, у студзені 1916 года. У той жа мясціне застаўся назаўсёды наш дзядзька.

Пасля нашага прыезду нам назначылі кватэры. Начавалі мы пачаткова па чарзе ў мясцовых гаспадароў, потым абсталяваліся на стала.

Як жыў бацька, хадзіў на заробак па вёсцы. Матуля намі апекавалася. У нашай сям'і было тры дзяўчынкі і чатырох хлопцаў. Найменшаму шэсць месяцаў закончылася, а найстарэйшаму — пятнаццаты год пайшоў як Казлы пакідалі.

Пасля смерці бацькі найстарэйшы брат добраахвотнікам у войска падаўся. У школу армейскую залічылі. Вывучыўся. Потым пісарам назначылі. Мы надалей заставаліся пад матулінай апекай.

Добрыя людзі ў Алабушцы жылі. Спагадліва да бежанцаў адносіліся. Яду прыносілі, дзецям — ласункі.

У шэсць гадоў я стала пастухом. Сто пяцьдзесят кароў мне прызначылі. У школу не хадзіла, бо там яе не было. Так стала матулі памагаць.

У тамашніх мясцінах лясоў амаль не было. Раўніна стаяла разлеглая. Зямля без угнаення ўраджай добры давала.

А зараз пакажу, як малацьба праходзіла. На акуратна выраўнаваную плошчу раскладаліся снапы ў даволі шырокі круг. Запрагаў гаспадар каня ў цялегу, саджаў кучку дзецюкоў на яе і так ездзіў па збожжы. Пасля спыняўся,ператрасаў салому і далей ездзіў, пакуль з каласкоў усё зерне не высыплецца...

Дамы ў Алабушцы з круглякоў ставіліся, а для жывёлы буданы — з мятай саломы. Кожная хата на дзве часткі раздзялялася, сені і горніцу. Горніцамі ў вёсцы спальны пакой называлі. Ён прызначаўся для старэйшых. Дзеці спалі ў сенях. Найгорш было зімою. Маразы стаялі тут строгія. Як зарысаваў мароз вокны ў пачатку зімы, то да канца не злазіў. У горніцах душы не сагрэеш! Дроў не было. Сушаным каровіным калам палілі. Усю зіму смурод стаяў у хаце. Ад чаду галава расколвалася, а да таго і жывёлу ў пакой прыводзілі. Калі прыходзіў час цяліцца карове, яе забіралі дахаты. У будан вярталі ўжо з цялятамі. Так жылі людзі ў Алабушцы. Не лічыліся надта багатымі. Аднак да вайны жыць можна было не найгорш.

У час рэвалюцыі бяда ўсіх дасцігла. Зямля аблогай ляжала. Лебядой парасла. Не было чаго есці. Людзі хаваліся перад вайскоўцамі. Капалі схоўшчы пад буданамі. Саломай закрывалі. Каго на вуліцы схапілі, расстрэльвалі. Наша хата ў канцы вёскі стаяла. Таму можна было са схоўшча назіраць, што дзеецца на вуліцы і на падыходзе да яе. Памятаю, як аднойчы шмат войска ехала на конях. Шаблі ў сонцы зіхацелі. Перад калонай мужчына ішоў. Раптам старшы сказаў яму бегчы ўперад. Калі той схапіўся ў подбегі, раздаўся выстрал. Мужык паваліўся на зямлю.

Такія вобразы паўтараліся ў пачатках вайны амаль штодзень. Бандыты стралялі чалавеку ў тыл галавы, або ў вуха. Потым ад'язджалі. Я сама бегала з іншымі дзецюкамі аглядаць забітых. Страшна ўсё выглядала. Нельга было пазнаць чалавека. Куля разрывала яму галаву.

Мы галадалі. Маці неаднойчы выходзіла на аблогі лебяду рваць. З яе зерняў пякла хлеб. Не было солі. Матуля гаварыла, што соль даставала недзе ў татараў. Фунт солі мы раздзялялі на месяц, а то і больш. Недахоп солі быў прычынай маёй хваробы. Я захварэла на цынгу, аднак яна сама па сабе прайшла.

У Алабушцы мы пражылі шэсць гадоў. Голад, холад і грабяжы заставілі нас вяртацца дамоў. Вярталіся ўсёй сям'ёй. Не хапала бацькі з дзядзькам, яго жонкі і найстарэйшага брата.

Брат перад самай вайной захварэў. Палажылі ў бальніцу. Як пачалася рэвалюцыя, лекары з хворымі паўцякалі, хто куды мог. Уцёк брат. У адной сарочцы, без нагавіц. Захутаў галаву ў плед і пайшоў перад сябе. Быў яшчэ хворы. Слабеў ад голаду. Як падыходзіў да вёскі, дзецюкі абкідалі каменнем. „Глядзіце, дурны ідзе", — крычалі. У нейкім хутары трапіў на старэчу, які яму боты і ватоўку даў.

З Алабушкі мы трапілі на нейкую невялічкую станцыю. Там праседзелі ад вясны да восені. Цягнікі не хадзілі. Пасля, як пагрузіліся на поезд, без перасадак даехалі ў Ковель. Адтуль падаліся на Брэст, Чаромху. Цягніком даехалі ў Бельск-Падляшскі. Прагледжвую пабач Казлоў матуля глядзела ці наша хата засталася.

У Бельску выгрузіліся дзве сям'і. Мы нанялі фурманкі і так дабраліся ў Казлы.

Палова вёскі была спалена. Наш дом таксама. Браты купілі пілу і сякеру. Забілі ў зямлю стаўбы, перапляталі хворастам і прыкрылі. Жылі так у часовым будынку праз нейкі час і будавалі новую хату. Браты гаспадарылі на бацькоўскім участку. Маці сваю пасажную чацвяртуху ў Мокрым прадала. Трэба было жыць і хату будаваць.

Пасля двух гадоў, як мы вярнуліся з бежанства, дабраўся дамоў і наш брат. Цётка засталася ў Расеі. Выйшла замуж. А мы з матуляй, без шчасця, без долі пачалі ўжо без бацькі новае жыццё.

**Запісаў**
**Уладзімір Сідарук**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

У чэрвені 1941 года зноў бяда — распачалася страшэнная вайна, страшэнная бойка. Падпалкоўнік Васіль Антанюк зноў на першай лініі. У арміі хаос, яна адступае, яна ўцякае. І як ёй не ўцякаць, калі ў пошуках ворагаў народа, вынішчылі пераважна найлепшыя ваенныя кадры, засеялі страх, падазронасць, недавер. З пяці, напрыклад, савецкіх маршалаў да пачатку вайны ўсплялі расстраляць аж трох — вельмі добрых, найлепшых. Тых двух, што асталіся і кіравалі арміяй, можа і былі добрымі калісьці, калі ваявалі на кані, штыком і шабляй, але не цяпер і не з такім ворагам. Падобна як маршалаў, перапалолі і ніжэйшы камандзірскі састаў...

Васіль Антанюк успеў яшчэ адзначыцца ў баі і атрымаць нейкую ўзнагароду. Потым, аднак, быў цяжка пapaнены і так трапіў у нямецкі палон і лагер, надоўга. Умовы ў лагеры былі страшэнныя, і людзі гінулі, як мухі. Антанюк і гэта перанёс і датрываў да вызвалення.

У Савецкі Саюз вярнуўся інвалідам. Адпаведнай працы, як пабываўшаму ў нямецкім палоне, не давалі. Зноў былі вінаватыя не тыя, хто давёў да такога стану і дзяржаву, і армію, што яна адступала і масава трапляла ў нямецкую няволю, а тыя, якія за чужыя памылкі сваю кроў пралівалі або як быдла гінулі на франтах ці ў фашыстоўскіх лагерах. Каб нейк пражыць, зарабляў дзе далося і як далося.

Савецкім афіцэрам, пабываўшым у нямецкіх канцлагерах, належалася грашовая кампенсацыя ад савецкай дзяржавы. І яны хуценька бралі яе і карысталіся ёю. А мой дзядзька, каб не прапусціць яе без толку, а скарыстаць з пажыткам, нейкі час не браў яе. Бо то і не вельмі было што купіць, а трымаць грошы дома было небяспечна. Жыў ён тады на нанятай кватэры. І сталася пасевецку: калі рашыў узяць гэтыя грошы, яму сказалі, што ўжо позна, кампенсацый больш выдаваць не будуць. І не далі. Так за ўсе свае пакуты Антанюк не атрымаў ні капейкі.

Сяк-так пражыў да старасці, тады атрымаў невялікую пенсію і дажываў на яе. Жыў у Растове-на-Доне. Там ён памёр і там пахаваны.

Дзедава дачка Ліза не вярнулася з бежанства дадому, бо выйшла замуж у Расіі і за рускага — інжынера Дудкіна. Выглядала на тое, што ёй вельмі пашанцавала. Бежанцы і дачцэ мужыка стаць жонкай інжынера-двараніна не так часта здаралася тады.

Пасля вяселля жылі яны ў Растове, дзе муж меў вялізны ўласны дом і сад. У іх нарадзіліся дзве дачкі. Лёс аднак вельмі сурова абышоўся і з гэтай дзедавай дачкой. І ў гэтым выпадку ўсяму віной рэвалюцыя.

Жыццё ў паслярэвалюцыйнай Расіі і яе было вельмі цяжкім. Ад цяжкага жыцця хутка ўмірае яе муж. У шаснаццацігадовым узросце ўмірае дачка. Другая дачка — калека. У час родаў надарвалі ёй ножкі, а медыцына была ў такім стане, што надарваць ножкі ўмелі, а ўжо вылечыць іх — не. Так і жыла калекай. Яна таксама памерла маладой і перад сваёй маткай.

Цётка Ліза пражыла вельмі цяжкое і доўгае жыццё. Яна была вельмі набожнай жанчынай. Рэгулярна хадзіла ў царкву, яе кватэра была завешана іконамі, а ў хаце заўсёды было поўна розных жабракоў і людзей пакрыўджаных лёсам.

Памерла і пахавана цётка Ліза, так як і дзядзька Васіль, у Растове.

Дачка Ганна, якой муж памёр па дарозе ў Расію, таксама выйшла замуж за тамашняга. Ад першага мужа яна мела сына і ад другога нарадзіла двух сыноў. Жылі яны на хутары Прохараўка, недалёка Растова. Жытуха ў савецкай дзяржаве была тады і ў вёсцы вельмі цяжкая — татальная галадуха. Аж смех прызнацца, галадуха там — дзе зямлі мноства і гэтая зямелька так ураджайная, што што б у яе толькі не ўкінуў, яно без ніякіх угнаенняў расце і родзіць, як на дражджах. Якімі ж мусілі быць тупіцамі і злачынцамі людзі, якія давялі народ да такога стану.

Праўда, і ў гэтай, здавалася б бязвыхаднай, сітуацыі, нашы людзі, якіх на хутарах і станіцах асталося ад бежанства нямала, радзілі значна лепей, чым мясцовае, раней заможнае насельніцтва. Нашы беларусы — людзі працавітыя, асцярожныя, прадбачлівыя. Яны заўсёды любілі і ўмелі прыпасціся на чорную гадзіну, якіх ім жыццё ніколі не скупіла. Кожны шматочак належнай ім зямелькі выкарыстоўвалі максімальна. Гадавалі таксама ўсё, што толькі можна было і давалася гадаваць: парсюка, курэй, качак, гусей.

Прафесіянальна карысталіся таксама багатымі дарамі данской прыроды. Там, напрыклад, раслі ў дзікім стане, як яны называюць, жэрдёлы. Гэта фрукты, падобныя на нашы слівы. Яны і смачныя, і моцна ўрадлівыя. Імі карысталіся там толькі ў сезон, а цётка Ганна іх сушыла і гатовіла з іх варэнне. Нарыхтоўвала гэтага прадукту мноства. І так перабівалася сям'я ў час галадухі і іншых ратавала. Ад такой ежы не растлусцееш канешне, але і ад голаду не здохнеш. А ўміралі там ад голаду многія.

Ішоў час, дзеці памаленьку падрасталі, а матэрыяльныя варункі павольна папраўляліся. Ненадоўга аднак. Калі пачалася вайна, зноў пачало ўсё псавацца. З такой цяжкасцю выгадаваныя дзеці былі мабілізаваны ў армію і адпраўлены на фронт.

З трох цётчыных сыноў вярнуўся дадому толькі адзін — пакалечаным інвалідам. Ехаў ён вярхом на кані ў разведку і наехаў на міну. Конь пад ім быў забіты, а яго ногі і цела страшэнна пасечаныя асколкамі. Але жывы. Пасля некалькіх аперацый і доўгага лячэння адна нага была зусім, а другая часткова мёртвая. З часам адну, а потым другую і зусім адрэзалі.

Два яго браты і толькі шчасця не мелі — загінулі дзесьці пад Сталінградам.

І цётка Ганна, і яе апошні сын даўно ўжо не жывуць на гэтым свеце...

Дзедавыя дзеці Ганна, Ліза, Ксеня і Васіль, якія ў 1915 годзе з усёй сям'ёй выехалі ў бежанства, больш ніколі не наведалі сваю Малую Айчыну і, на жаль, родня зямля іх косці не прыбрала.

Не раз задаю сабе пытанні: Колькі ж з-за бежанства ўзнікла заўчасных магіл і адлажылася гора толькі ў адной дзедавай сям'і? Колькі такіх магіл і гора прыпала на ўсю нашу вёску? А колькі на ўсе нашы гарады і сёлы?!

Скажыце, дзеля чаго наш народ злажыў такую ахвяру?!.

*(працяг будзе)*

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXIII**

Сёння прывяду апошні фрагмент выказванняў выдатнага эміграцыйнага дзеяча, гісторыка і літаратуразнаўцы Антона Адамовіча на тэму Радзімы.

„Я не хацеў бы катэгарычна выказвацца на тэму, што мы, эмігранты, больш уласціва чым беларусы, якія жывуць у Беларусі, разумеем і ўспрымаем сваю Бацькаўшчыну. Зразумела, што нямала ёсць адшчапенцаў сярод беларусаў з Беларусі і беларусаў з эміграцыі. Аднак са сказанага не вынікае, што я хачу паставіць знак роўнасці паміж жыхарамі Беларусі і эмігрантамі. Наадварот, прагну падкрэсліць, што выступае тут аграмадная розніца. Беларускае грамадства, на жаль, моцна зняволенае. Шматгадовая таталітарная прапаганда дала рэзультат. Праўляецца ён у тым, што вялікая частка беларускага народа ўспрыняла савецкую прапаганду як ісціну, а вядома, што гэтая прапаганда абаснавана наогул на мане. Гэта, па-першае, а падругое, беларускае грамадства моцна русіфікаванае. У выніку татальнага наступу асветы, радыё, тэлебачання, прэсы і вуснай партыйнай прапаганды, вялікая маса беларусаў роднае трактуе як чужое, а чужое як роднае. І якраз у гэтым праяўляецца драматычны аспект сучаснай рэчаіснасці. Вы ўжо не першы раз знаходзіцеся на Захадзе і не першы раз кантактуецеся з беларускімі эмігрантамі. І не сумняваюся, што бачыце, што ніхто тут не жыве ў змане і ніхто тут не выракаецца родных традыцый і роднай мовы. Адным словам, ніхто з эмігрантаў не ставіць чужога вышэй, чым роднае.

Драматызм сітуацыі праяўляецца ў тым, што ў канцы канцоў лёс Беларусі будзе вырашацца не па-за межамі, а толькі ў самой Беларусі. Я веру, што раней ці пазней савецкая сістэма развaліцца. Нельга без канца ўтрымліваць архаічную сістэму, якая абапіраецца на манголізме. Загадкай для мяне ёсць тое, ці Беларусь падрыхтавана да гэтага развалу. Скажу вам шчыра, што калі б разваліўся Савецкі Саюз, а гэта можа стацца, хаця гэтая ідэя выглядае сёння як нешта фікцыйнае і фантастычнае, дык я не ведаю, як захаваліся б беларусы, калі б гісторыя іх паставіла твар у твар з ідэяй незалежнасці. Зразумела, што беларусам тым цяжэй будзе ўспрыняць ідэю незалежнасці, чым большай будзе ступень духоўнага зняволення беларусаў і ступень іх русіфікацыі. Зусім магчыма, што для вялікага працэнта беларусаў перспектыва незалежнасці не будзе мець адпаведнай прыцягваючай моцы. Вы лепш ведаеце сучасную Беларусь, чым я, бо бываеце там часта, а я не быў у ёй болей чым сорак ґадоў, таму і быць можа, што болей ведаеце пра сучасны духоўна-нацыянальны стан савецкіх беларусаў. Аднак прагну вам сказаць, што я безупынна карыстаюся шматлікімі інфармацыйнымі крыніцамі аб Беларусі і многае з ёю звязанае не мае для мяне загадак. Мне здаецца, што духоўны стан беларусаў ёсць дрэнны. Аднак было б вялікай памылкай, каб мы ўсё беларускае грамадства трактавалі аднолькава, і каб на ўсіх беларусаў махнулі рукою. Вядома, што сярод сярэдняга пакалення і асабліва сярод моладзі ёсць многа такіх беларусаў, якія цвёрда стаяць на грунце, калі не поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, дык на грунце пакалечанай духоўнай беларускай самастойнасці. І вось людзі такога тыпу стануцца зародышамі незалежніцкіх ідэяў. Гэта, што я гавару, мае футуралагічны характар. Зусім магчыма, што мае разважанні, як усе прагнозы, маюць у сабе памылковыя элементы.

Вяртаючыся на эміграцыйны грунт, прагну сказаць, што і ў нас далёка не ўсё ў парадку. Справа ў тым, што беларуская эміграцыя хутка старэе. Струмень дапльіву да нас беларусаў з Радзімы вельмі-вельмі слабы і малы. А што датычыцца маладога пакалення беларусаў на Захадзе, дык яно сілаю рэчаў дэнацыяналізуецца. Бачыце, яно выглядае так: для чалавека Радзіма там, дзе ён нарадзіўся. Пакаленне, якое нарадзілася ў Амерыцы, Амерыку, а не Беларусь, трактуе як сваю радзіму. Скажу вам, што нярэдка даходзіць да канфліктаў і непаразуменняў паміж беларусамі-бацькамі і беларусамі-дзяцьмі. Зрэшты, не ведаю, ці гэтых усіх дзяцей можам называць беларусамі. Справа ў тым, што ў большасці выпадкаў гэтыя малядыя людзі трактуюць сябе як амерыканцаў і гэта ж зусім натуральнае. Зразумела, што ёсць у Амерыцы беларусы-бацькі, якія пры дапамозе надзвычайных намаганняў дабіліся таго, што іх дзеці добра валодаюць беларускай мовай і маюць беларускую нацыянальную свядомасць. Аднак гэта выключэнні. У большасці выхадцаў маладое пакаленне амерыканізуецца і ў мове, і ў нацыянальнай свядомасці. Трэба аднак сказаць, што беларуская эміграцыя зрабіла вельмі-вельмі многа для таго, каб беларуская духоўнасць не прапала ў беларускіх сем'ях. Вы ж самі публічна падкрэслівалі з захапленнем тое, што тут беларусы ў сваіх сем'ях, на вуліцы, на зборках паслугоўваюцца беларускай мовай. Найбольшы парадокс заключаецца ў тым, што тут, на чужыне, пачуццё радзімы, нацыянальнага гонару, прэстыжу мовы стаяць вышэй, чым у Беларусі. А ці ж не павінна быць наадварот? Будзем верыць, што наша нацыя, як марыў Купала, зойме пачэсны пасад між народамі".

**Алесь Барскі**

# Выйдуць шматлікія патрыёты

Адыходзячы ў гістарычную вечнасць 1996-ы год прынёс беларускаму народу шмат цяжкасцей, перажыванняў і нават пагрозу знішчэння няdаўна здабытай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і Новы 1997-ы Год будзе вымагаць ад усіх патрыётаў беларускага народа вялікай ахвярнасці ў працы ў абароне незалежнасці сваёй краіны...

Беларускія патрыёты па ўсім свеце ўшаноўваюць штогод памяць вялікага героя, сына Беларусі, Кастуся Каліноўскага, які аддаў сваё маладое жыццё за свабоду і незалежнасць беларускай дзяржавы. І я ёсць перакананы, што на поле змагання за Свабоду і Незалежнасць Рэспублікі Беларусь выйдуць шматлікія патрыёты, якія, таксама як гістарычны Кастусь Каліноўскі, зробяць належныя крокі і патрэбныя ўчынкі ў абароне Святой Ідэі Свабоды і Дзяржаўнай Незалежнасці Беларусі!!!

Жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

**Алесь Алехнік**
**Генеральны сакратар**
**Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі**

# Позірк у мінулае

**29 снежня**

1170 г. — у кентэрберыйскай базіліцы арцыбіскуп Тамас Бэкет забіты чатырма рыцарамі караля Англіі Генрыха II.

1896 г. — нар. Хасэ Сікейрас, мексіканскі мастак.

**30 снежня**

1884 г. — нар. Янка Ясенскі, славацкі паэт.

1921 г. — у Чыкага прапрэм'ера оперы Сяргея Пракоф'ева „Любоў да трох апельсінаў".

1922 г. — усесавецкі кангрэс абвясціў заснаванне СССР.

**31 снежня**

335 г. — памёр папа Сільвестр, які аздаравіў рымскага імператара Канстанціна ад лепры, а пасля ахрысціў яго.

1384 г. — памёр Джон Уікліф, англійскі багаслоў, працўнік догмы аб непагрэшнасці папы, адкідаў культ святых і гандаль індульгенцыямі (адпушчэннем грахоў), быў за адказам касцёла ад зямельнай уласнасці. Сабор у Канстанцы 1415 г. прысудзіў спаліць працы Уікліфа, а ягоныя астанкі распусціць у Тэмзе.

1880 г. — нар. Джордж Маршал, амерыканскі генерал і палітык, аўтар „Плана Маршала" адбудовы Еўропы пасля II сусветнай вайны; лаўрэат мірнай Нобелеўскай прэміі за 1953 г.

**1 студзеня**

379 г. — памёр Васілій Вялікі, выдатны багаслоў, адзін з айцоў Царквы. Народжаны ў Кесарыі ў 329 г., вучыўся ў Канстанцінопалі і Афінах. Вярнуўшыся на радзіму, прыняў хрышчэнне, а затым падаўся ў Сірыю, Месапатамію, Палесціну і Егіпет, праводзячы там манаскае жыццё. Заснаваў каля 360 манастыроў, распрацаваў правілы манаскіх паводзін, якіх асновай мелі быць супольная цяжкая праца і дабрадзейныя паслугі. У 370 г. стаў епіскапам Кесарыі; змагаўся супраць арыянства, апрацаваў чын літургіі. Ягоныя бабуля Макрына, бацькі Васілій і Эмелія, сястра Макрына і малодшыя браты Грыгорый і Пётр былі аб'яўлены святымі.

1484 г. — нар. Ульрых Цвінглі, швейцарскі рэлігійны рэфарматар. Вучыўся ва універсітэтах у Вене і Базелі, пасля стаў пастырам у Гларусе, які быў цэнтрам набору наёмных войск. З 1516 г. пачаў вывучаць Святое Пісанне, заўважаючы, што касцельныя тэорыя і практыка расходзяцца з Бібліяй. У сваім вучэнні асуджаў культ святых, рэліквіяў, цэлібат і гандаль індульгенцыямі. 1 студзеня 1519 г. быў назначаны святарам у Вялікай Кафедры (Grossmuenster) у Цюрыху. У сваіх пропаведзях чытаў Біблію і тлумачыў яе змест, што было ў разрыве з тадышнім чытаннем Вульгаты і вучэннем айцоў Касцёла. Па загаду папы Адрыяна VI стаў ён перад судом у Цюрыху, дзе бараніў сваіх поглядаў. Суд апраўдаў яго, выводзячы на дадатак Цюрых з падчынення канстанцкаму біскупу. У 1524 г. Цвінглі ажаніўся. Спатыкаўся ён з саксонскімі рэфарматарамі, у іх ліку і з Лютэрам, з якім розніўся ў некаторых дагматычных пытаннях. У выніку ягонай дзейнасці шэсць кантонаў выказаліся за рэфармацыяй, а пяць адказаліся. У 1529 г. дайшло да вайны між імі і ў бітве пад Капель 11 кастрычніка Цвінглі загінуў.

**2 студзеня**

1635 г. — кардыналам Рышэльё заснавана Французская акадэмія дзеля нармiравання французскай мовы. Свой першы слоўнік выпусціла яна ў 1694 г., а восьмы ў 1935 г. Пастаянна налічвае 40 членаў.

(Ш)

# Парнасік

## Елка, расці жыва

Елачка, ты расцеш
Каб загінуць,
Кароткую радасць даеш,
Калі прыгожы вянок накінуць
На твае ўсе галінкі.
Усякую прыгажосць:
Ад цукеркаў да штучнай калінкі.
Такі твой лёс...
Апранаюць як каралеву,
Хаця ты ўжо нежывая.
Пры табе вядуць размовы
Людзі, што пра сябе толькі дбаюць.
Так у свеце сустракаюць Новы год,
Раджджаство Хрыстова — Каляды.
Няшчасны людскі род
На ўсе лады.
Хрыстос не жадае тваёй пагібелі,
Хоча, каб ты расла і расла,
Каб да ясляў мы шчыра прыбылі,
А ты — каб у лесе радасць нясла.
Гэта варварства
Зрэзваць яловы маладняк,
Вялікае марнатраўства
Учыняюць людзі так.
Спыніць усё гэта!
Пайсці на кампраміс;
Мая галоўная мэта:
Штучная ёлка ў кожнай сям'і.
І гэта ўжо відаць
У многіх краінах.
Там ёлачкі стаяць
Штучныя, не з хваінаў.

**Мікалай Панфілюк**

## Скарга вясковага пенсіянера

Ой, Божа ж мой, Божа,
Няма што казаці,
Як далей старэнькім
На вёсцы дажываці.
Дзеці пайшлі ў горад,
Лягчэйшае жыццё маюць,
Пра бацькаву зямельку,
Нат не ўспамінаюць.
Пенсія ў нас малая,
Цяжка на яе пражыці,
За сабачы грошы
Трэба ўсё купіці.
Едуць крамы ў вёску,
Вязуць усе тавары,
Дзяруць, колькі змогуць,
Літасці не маюць.
ПСЛ стараўся,
Каб мужык зраўняўся,
Пакуль на мяккае крэсла,
На вярхушку ўзняўся.

**Мікалай Лук'янюк**

## У 1997 годзе

Дай Божа здароўе Калядзе Ірыне,
Няхай слава яе ніколі не загіне!
Дарыла, што мела для карэспандэнтаў,
Былі апрануты без грошай, без цэнтаў.
Але ў праўду яе не паверылі людзі,
Сказалі, што рэчы знайшла я ў блудзе.
Лепшы рэчы забралі, а грошы спалілі,
Бо розуму Іры не перасілілі.
Усе шкадавалі для інвалідкі-паненкі.
„Мама" Іра, жыву я і без прыгожай сукенкі.

**Мар'я Пень**

# На старасць

Валя і Віця былі згоднай шлюбнай парай. Муж, як мог, так хваліў жонку перад суседзямі і знаёмымі. Усе зайздросцілі Валі такога людскага чалавека. Дочкі і сыны таксама ім удаліся, паслухмяныя, хоць навука ім ішла даволі цяжка. Усе пабраліся ў сваёй вёсцы. Валя і Віця цешыліся і з унукаў. Калі ўнукі выраслі, амаль уся радня выехала ў горад. У вёсцы астаўся толькі Толік. Ён апрача гаспадаркі працаваў і ў драўніне. Унучка Галіна выйшла замуж у горадзе Б. за багатага ўласніка дзвюх мясных крамаў. Грошай ёй хапала, але рашылі з мужам паехаць на год у Амерыку. Крамаў пільнавалі б у той час мужавы бацькі, а домам, багата абстаўленай віллай, меў заняцца дзед, Віця.

Віця не хацеў сам ехаць у горад, апекавацца ўнуччыным дабром. Як жа там яму быць без каханай Валюхны?

— Віця, то ж трэба памагчы ўнукам, — пераконвала Віцю жонка. — Я буду пільнаваць Толікаву Лільку ў вёсцы, а ты дбай аб хату Галіны і Ярка.

Паехаў Віця ў горад.

Спачатку дняваў і начаваў дома. Хутка купляў што паесці і бег дахаты, пільнаваць унуччын дабытак. Пасля пачаў знаёміцца з суседзямі. Нават забралі яго на танцы, што арганізаваліся для адзінокіх пенсіянераў. Хадзіць у клуб сеньёраў намовіў яго сусед Юлік. Ён таксама пазнаёміў Віцю з удавой Вандай.

Васьмідзесяцігадовы селянін пачаў усім прызнавацца, што ля Ванды адчувае сябе стопрацэнтным мужчынам. Вырашыў, што кіне Валю, возьме развод і ажэніцца са сваім вялікім каханнем. Ванда не была супраць.

Калі Валя паявілася ў Б., Віця не меў пра што з ёю доўга размаўляць і выгнаў з хаты. Неўзабаве падаў на развод.

Валя плача. Разводу даваць не хоча. Усім расказвае, што гэта гарадскія фокусы так змянілі яе добрага мужа. Мае найбольш прэтэнзій да ўнучкі, што ўзяла Віцю за вартаўніка маёмасці і разлучыла дзеда з бабай на старасць. А Віця цяпер кажа, што ўсе гады, пражытыя з Валяй — змарнаваныя, і толькі цяпер адчувае ён смак жыцця.

**Аўрора**

# Вер — не вер

Астроне! Прысніўся мне сон — доўгі, заблытаны і... цікавы.

Быццам сустрэлася я са сваім былым хлопцам. Але не ведаю, дзе мы: нібы знаходзімся на незнаёмай вуліцы незнаёмага горада. І так мы размаўляем з ім і мне вельмі прыемна. Даўно гэта было, яшчэ ў маёй маладосці, але ўсё, што было, бачу, быццам на далоні. І ён вельмі міла адносіцца да мяне.

Раптам бачу, што гэты хлопец робіцца ўсё больш празрысты і знікае зусім. Астаецца ад яго толькі нейкая пляма, быццам цень на ходніку.

І вось ужо як бы другая частка сну, працяг першай. Я недзе за мяжой, бадай у Амерыцы. У сапраўднасці я там ніколі не была. Я жыву ў нейкім гатэлі, усюды пальмы, прыгожа. Аказваецца, той мой былы хлопец з першай часткі сну — жывы і здаровы. Але ўжо ён не прадстае ў такім прыгожым святле, як у першай частцы.

Аказваецца, што ён ашукаў мяне. Мытнікі бяруць мой чамадан і з упэўненасцю пачынаюць адпорваць ад яго падкладку, быццам бы ведалі, што я там нешта схавала. А я ж там нічога не хавала... Раптам мытнік выцягвае з-пад падкладкі пачку грошай. Мой хлопец стаіць, прыглядаецца, а я пачынаю разумець, што гэта яго работа. Меў жа ён мой чамадан, і толькі ён мог мне зрабіць такую подласць. І нават не дзеля таго, каб мець з гэтага карысць, бо непатрэбны яму гэтыя грошы, а каб мне было клапатліва.

Як ты думаеш, Астроне, ці здарыцца нешта кепскае, ці на сон меў уплыў фільм, які ў той час ішоў па тэлевізару, а я заснула?

**Жэня**

Жэня! Можна было б спадзявацца нейкай подласці, калі б не... тэлевізар. Ты гэты фільм чула, хаця не бачыла яго, калі заснула. Сон — жыўцом узяты з амерыканскіх крыміналаў.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. танец 60-х гадоў, 4. мэбля без спінкі для сядзення, 6. дваранскі тытул. 7. сталіца Беларусі, 9. голас змяі, 11. сытага не разумее, 12. дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы, 13. прэснаводная жывёла з вялікімі клюшнямі, 15. апошняя літара грэчаскага алфавіта, 17. шматгаловая змяя, 18. займаецца грабяжом, разбоем, 19. чалавек, які метка страляе.

**Вертыкальна:** 1. астравы на захад ад Шатландыі, 2. статак коней, 3. прадмет рэлігійнага пакланення, 4. паказальнік тэмпературы, 5. равеснік, 6. з яе самагонка, 8. мячэць у Мекцы, мэта галоўнага мусульманскага паломніцтва, 9. малочны прадукт, 10. адкрыў Гавайскія астравы ў 1778 г., 14. адна з жардзін, у якія запрагаюць каня, 16. водступ тэксту ў пачатку першага радка, 17. прыбудоўка пры хаце з перашклёнымі сценамі.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 45 н-ра:**

**Гарызантальна:** асвета, рысунак, цаліна, дзівосы, знахар, атаман, акведук, ранжыр, вадарод, Масква.

**Вертыкальна:** Гродна, асліца, Андора, акцыз, Волга, танга, Невада, Хіджра, ракада, траса, мужык, Нарва.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.




**„Niwa"**
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Кожнаму сваё**

*Толькі месяц — начны лодар —*
*Павесіўся на асіне...*

**Юрка Зубрыцкі**

Вісіць Месяц на асіне,
А Юпітэр — на бярозе,
А Венера на галіне
Таго дуба пры дарозе.
Марс забраўся на таполю,
А Сатурн ў кусты парэчак.
А Нептун плыве паволі
Над вярбою па-над рэчкай...
Кожны месца сваё мае,
Ну, і я не сплю у шапку,
Бо заўжды мяне чакае
Куст ядлоўцу ў нашым парку.

**Сяргей Чыгрын**

# Ніўка

*Мал. П. Козіча*



# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У Кракаве адбываецца вялікі сімпозіум на тэму інтымнага жыцця мужчын. Лекар у сваім дакладзе заявіў, што мужчына павінен мець толькі жонку. Псіхолаг сказаў, што мужчына павінен мець каханку, бо дзеля яе заложыць гальштук і тады ён элегантны і ветлівы. Навуковец у сваю чаргу заявіў, што мужчына павінен мець адну і другую, бо жонка думала б што ён у каханкі, а каханка — што ў жонкі, а ён у тым часе — шусь у бібліятэку!

* * *

Катэхет на ўроку рэлігіі:

— Сёння раскажу вам, як паўстаў першы чалавек.

— Мы хочам, каб вы расказалі, як паўстаў трэці, — адзываецца Юрка з апошняй парты.

* * *

Жонка просіць мужа:

— Растлумач мне, каханы, што гэта такое *канстэрнацыя*.

— Гэта вельмі проста. Уяві сабе, што я раней вярнуўся з камандзіроўкі. Уваходзіш у спальню і бачыш мяне ў ложку са сваёй найлепшай сяброўкай...

Жонка, каб лепш запамятаць чужое слова, голасна паўтарае сказанае мужам:

— Вяртаешся раней з камандзіроўкі, адкрываеш дзверы і бачыш мяне ў ложку са сваім найлепшым сябрам...

— Не, каханая, — перабівае яе муж. — Тое, што ты гаворыш, гэта не *канстэрнацыя*; гэта распуста!

* * *

Жыхар пасёлка аднакватэрных дамоў тэлефануе суседу, які жыве насупраць:

— Я разумею, маладое сужонства, трэба даць сабе волю... Але вельмі вас прашу: калі пачынаеце свае любоўныя гульні, засланяйце вокны. Мае дзеці адкрылі, што дзеецца ў вас ад 13-й да 14-й гадзіны і не адарваць іх ад вокнаў, урокаў не рыхтуюць...

— Што за бязглуздзіцу вы плецяце! У гэтую пару я заўсёды на працы.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Дрэнна сёння выглядаеш, такі прыбіты...

— У мяне дэпрэсія.

— Ад чаго?

— Жонка мне здраджвае.

— Раскажу табе цудоўны анекдот: развяселішся!

— Нічога мяне не цешыць...

— Гэты анекдот і сапраўды цудоўны! Калі ўчора расказаў я яго тваёй жонцы, дык яна амаль не звалілася з ложка.

# Стыліусава далажэнне

З выпадку апаявшчэння Міласцівейшым Імператарам Новага ... года ўсе відныя асобы Правінцыі сабраліся за супольны трапезны стол, каб нарáдзіцца ў важных дзяржаўных пытаннях. Год, што быў на зыходзе, вызначыўся асаблівым неспакоем у жыцці нашай Правінцыі. Паўднёвыя плямёны яўна наступілі на святыню Ваала. Дайшло нават да таго, што аднаго разу публічна апаганілі яны Ваалаву выяву ля самога ўвахода ў сталічную яго святыню. Праўда, нешматлікія ў гэтым святатацтве прынялі ўдзел, а нягодны гэты ўчынак з усёй жорсткасцю быў асуджаны ўсім светлым і несканчоным у сваёй пранiклівасці чынавенствам Міласцівейшага Імператара. Праўда таксама, што паўднёвыя плямёны не наважыліся ўжо другі раз так агідна паздзекавацца над статуяй Ваала, але надалей вядуць зацятую з ім барацьбу ў выглядзе неўтаймаванай брахні і лаянкі іхніх пракарокаў. Акалічнасць гэтая і стала найважнейшым пытаннем нарады.

Прайшло ўжо колькі гадоў, калі ў нашай Правінцыі, з дазволу Міласцівейшага Імператара, можна вызнаваць новую рэлігію, адкідаючы назаўжды пакланенне Ваалу. Ёсць аднак і такое ў той новай рэлігіі (праўда, шчырасць, любоў), што не дазваляе ёй хутка і лёгка выпусціць карані ў наш люд, таму ўсё правінцыйнае чынавенства, каб прыдаць сабе павагу, надалей перад людам веруе ў Ваала нароўні з гэтым новым Богам, а ўсякае адшчапенства ад такой маральнай нормы жорстка асуджае. Хіба лішне тут дадаваць, Ваша Міласцівейшасць, што ніхто з правінцыйнага чынавенства ў неспакойным нам старым ... годзе не апаганіўся ні адной думкай, ні адным словам супроць Ваала.

— Я з ваалапаклоннікамі да трапезы выняткова сядаю, — Спірыцій Рухво Наймалодшы Мовенс, які меў пад апекаю прыгожае мастацтва ўсёй Правінцыі (за выняткам літаратуры), яўна аддаваў перавагу новай рэлігіі і любіў гэта падкрэсліць.

— Ціха, — уклініўся Яго Геніяльнейшасць Мосіус Вагіна, які загадваў крыважэрным легіёнам палемістаў (Вагіна не было яго сапраўдным прозвішчам, а толькі мянушкай, яго ўлюбёным словам, якое ў натхнёным палемічным змаганні праскланяў на ўсе сацыяльныя адценні) — я ў сваім сэрцы, а Ваал гэта бачыць, таксама пакланяюся новаму Богу — так на ўсякі выпадак, але трэба ж з гэтым абносіцца перад людам? Я ўвесь, адышоўшы з ласкі Міласцівейшага Імператара, стары год самотна біўся за належнае ў нашай Правінцыі месца для адзінага Ваала. Мне аднаму найвялікшая ў гэтым заслуга. А вы, зайздроснікі, ніколі мяне ў гэтым не прызналі і не прызнаеце.

— Дастойны наш і ўсімі шанаваны Мосіус, — так прамовіў Сакрацеліус Найвялікшы Скрыбій, першаіерарх, настаўнік і святло ўсёй Правінцыі, — хіба не думаеш, што я сакрэтна падтрымліваў гэтых варвараў з Поўдня, калі ў бязмежным сваім дзікунстве зганьбавалі яны статую Ваала і чуць не ўварваліся ў саму святыню. Сам ведаеш, што ўвесь год, як і належыцца, правеў я на Ваалавых пірах, за што і надзяліў ён мяне ласкай сваіх дабротаў. А значыць, першынства ў Правінцыі мне належыцца.

— Так, — сарваўся Спірыцій Рухво Наймалодшы Мовенс, — толькі адзін Сакрацеліус Найвялікшы Скрыбій дастойны, каб прадстаўляць Правінцыю ў замежнай палітыцы. Адзін ён і яшчэ я. Толькі нам удалося прадугледзіць пажаданне Міласцівейшага Імператара ў новай рэлігіі з прывязанасцю люду да Ваала.

— Нельга нам, — уставіў сваё слова Саноўны Санецій Ілірыус Найважнейшы, апякун усёй паэзіі ў нашым краі, — так звычайна адрачыся Ваала. За яго гэта справай раскашуемся ў золаце і дарагім каменні. А што нам нясе новая рэлігія — усяго няпэўнае абяцанне збаўлення таго, што пракорі варвараў завуць душою. Я запэўніваю ўсіх тут сабраных, што ніколі публічна не далучаюся і не далучуся да варвараў з Поўдня...

Нарада за святочнай трапезай, Ваша Міласцівейшая Імператарскасць, як і заведзена ў нашай Правінцыі, цягнулася яшчэ трое сутак — аж да несумлеўнага надыходу апавешчанага Вамі Новага ... года. Плямёны з Поўдня, хоць і малалікія, але ўсё наступаюць на Ваалаву святыню ў нашым краі. Люд наш верны адзінаму Ваалу і свяцейшае чынавенства Вашай Імператарскасці мужна ім супрацьстаўляюцца. Услед Новаму ... году ідзе ў наш край няпэўнасць. Няўжо пракорі новай рэлігіі здолеюць назаўжды скінуць пастументы Ваала перад святынямі нашымі? Журботная развага над лёсам нашай Правінцыі прыносіць некаторую палёгку адзіноцтву чалавека ў гэты неспакойны час.

**З адданасцю і ўніжэннем**
**Яго Імператарскасці**
**Стыліус Молат**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Дальбог, бяда. Хто ж бы падумаў, што здарыцца такое... А ўсё з-за маіх сяброўак з працы. Сама сёння не магу зразумець, чаго я пацягнулася з імі ў той бар. На рабоце крыху выпілі, але надта паціху, бо шэф не дазваляе. А пакольк былі імяніны адной з нас, дык яна запрасіла нас у той бар на „кантынуацыю". Ну і сталася.

Там, у гэтым бары, прычапіўся да мяне малады чалавек. Ну, я, як кажуць, крыху паскаліла зубы з ім. Але ці ж усур'ёз?! Усяго пяць гадоў, як замуж выйшла, сынок у мяне малы, муж добры і прыгожы. Каб ён ведаў, што я з сяброўкамі ў бар пайшла, то ўжо бяда была б. А тут яшчэ і „каханка" сабе завяла. А што ты думаеш, прычапіўся, як смала. У нас горад невялікі, хутка даведаўся, хто я і што, і дзе працую.

А цяпер то звоніць, то каля працы чакае, каб мяне правесці дахаты. Я баюся, што людзі скажуць, калі ён так ідзе побач са мною. А яшчэ ж мужу данясуць, во тады дык будзе. А ён гаворыць аб сваім нязвыклым, вялікім каханні да мяне, пра свае мары. Мне прыемна, але ўвесь час праследуе мяне страх. Яму што, ён яшчэ нежанаты, а я баюся, што гэты чалавек можа разбіць маю сям'ю.

Справа ў тым, што ён мне таксама падабаецца. Гэта здарылася першы раз пасля шлюбу. Мушу табе сказаць праўду: дагэтуль мне нават у галаву не прыйшло, што можна мужу здрадзіць, а цяпер я ўжо і сама не ведаю, што рабіць.

Пагаварыла я са старэйшай сяброўкай. А яна мне і кажа: маеш добрага мужа, у справах сексу згаджаецеся, дык не пачынай. Спачатку так бывае, што чалавек думае толькі крыху дадаць сабе эратычных уражанняў, а пасля і ўліпне. Не, не, не пачынай, бо набярэшся бяды.

Я паслухала сяброўку і пачала ад свайго новага знаёмага ўцякаць. Але ён мне так лёгка не даравяў. Пачаў хадзіць за мною, як цень. Я ўжо не падыходзіла да тэлефона, калі ён званіў да мяне на працу, выходзіла з працы раней, каб не сустрэцца з ім. Дзякавала Богу, што мы ў хаце не маем тэлефона.

Дык уяві сабе, што ён зрабіў. Пачаў прыходзіць да майго дома. Стаіць ці ходзіць пад вокнамі, заглядае, падслухоўвае. Я нічога не ведала, але калісь убачыла яго мая мама. Думала, што гэта нейкі злодзей ці падглядач. Накрычала на яго. Я выглянула, бачу: ён. Мяне аж страсянула. Не злодзей гэта, кажу маме. Гэты чалавек за мной цягаецца.

Божа, як ты магла да гэтага дапусціць! Так з нічога такога не бывае. Пэўна, ты дала яму дзеля гэтага прычыну! Я бажылася маме, што ніякіх „прычын", апрача размоў, я яму не давала, і наадварот, не хачу яго знаць. Але мама мне не цалкам верыла.

І цяпер я думаю, што мо кепска я зрабіла, што перастала з ім знацца. Во цяпер то будзе, як муж мой убачыць яго пад нашымі вокнамі! Што мне рабіць, Сэрцайка? Проста роспач.

**Крыся**

Крыся! Калі б ты не парвала з ім адносін, дык да гэтага часу ўжо мо здрадзіла б мужу. А так прынамсі ты чыстая. А думаеш, што калі б ты аддалася яму, бо ж пішаш, што так наогул то ён табе падабаецца, дык захавала б сваю сям'ю? Ого! Такі як навяжацца, дык і сям'ю гатоў разбіць, сваёй мэты, не зважаючы ні на што, дасягаючы...

Падумай сама, адкуль жа бяруцца разводы, калі не ад гэтага. Не заўсёды кідаюць подлых і нягодных людзей. Часамі бываюць яны больш чалавечыя, чым тыя, якія адыходзяць.

Так магло б здарыцца і ў цябе. А калі нічога не вісіць у цябе на сумленні, дык выйдзі калісьці пад вакно і — пры мужу — скажы, каб ён там не тырчэў, бо вам гэта перашкаджае.

Хіба што муж твой настолькі зайздросны, што лепш пры ім гэтай справы не кранаць.

**Сэрцайка**